

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 7(78) Ліпень 2000 July Год выд. 8.






**Спадарыня Кляра КУМЭЙША —**

адна з пачынальніц беларускае незалежніцкае дзейнасьці ў Дэтройце, ЗША., грамадзка-культурная і рэлігійная дзеячка, вялікая патрыётка свайго народу.

Дарагая Кляра! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.

Высока Паважанага Доктара Мацьвея Смаршчка з Мінэсота, ЗША., віншуем з 85-мі ўгодкамі жыцьця і жадаем Яму далейшага добрага здароўя, бадзёрасьці і ўсякае памыснасьці.

Др. Мацьвей — ведамы беларускі філантроп, палымяны патрыёт-незалежнік і няўтомны руплівец на ніве беларускага адраджэньня і дзяржаўнасьці.

Найвыдатнейшаму спонсару нашае газэты — "Беларускага Дайджэсту" рэдакцыя жадае 100 год! з гакам, і таксама ўсяго найлепшага ў паўнавартасным і надзвычай карысным для беларускасьці жыцьці.

Многія Лета!

## Сустрэча дэлегацыі беларускіх дэмакратычных сілаў

**з Дзяржаўным сакратаром Мадлен Олбрайт прайшла 26 чэрвеня ў Варшаве ў межах канфэрэнцыі «Міжнародны Форум за Дэмакратыю».**

Дзяржаўны сакратар ЗША Мэдлен Олбрайт, якая знаходзілася ў Варшаве на Ўсясьветным форуме дэмакратыі, 26-га чэрвеня асобна сустрэлася з прадстаўнікамі беларускай апазыцыі. Зь беларускага боку ў сустрэчы брали ўдзел віцэ-сьпікер ВС і старшыня АГП Анатоль Лябедзька, лідэр БНФ Вінцук Вячорка, актывісты "Хартыі-97" Людміла Гразнова й Зьміцер Бандарэнка, а таксам адна зь лідарак беларускага жаночага руху намесьніца старшыні БСДП (Народная Грамада) Ніна Стужынская. "Мы выступалі ад імя аб'яднанае дэмакратычнае апазыцыі Беларусі, - заявіў у інтэрвію радыё "Рацыя" Анатоль Лябедзька. – Менавіта з гэтае пазыцыі мы й вялі размову, якая засьведчыла, што цікавасьць да беларускага пытаньня – гэта не эпізод, а праява шырокае дзяржаўнае палітыкі Злучаных Штатаў".

**А.Л.:** - Сам факт сустрэчы - гэта падзея вялікае палітычнае значнасьці. Я нагадаў бы, што зараз у Варшаву зьехаліся больш за 100 міністраў замежных справаў, і, натуральна, кожны зь іх імкнуўся сустрэцца са спадарыняй Олбрайт. Тое, што яна знайшла мажлівасьць і час для сустрэчы зь беларускай дэмакратычнай апазыцыяй, гэта вельмі й вельмі істотны факт. І ён у значнай ступені зьяўляецца пацьвярджэньнем тае высновы, якую мы зрабілі пасьля візыту ў Вашынгтон, што ЗША праяўляюць сапраўды вялікую зацікаўленасьць сытуацыяй на Беларусі. Падчас нашае гаворкі мы закраналі розныя пытаньні: мы распавялі пра сёньняшні стан справаў, выказалі свае прагнозы адносна таго, як будзе разьвівацца сытуацыя на Беларусі й атрымалі запэўненьне ў палітычнае й маральнае



падтрымцы афіцыйным Вашынгтонам беларускае дэмакратычнае апазыцыі. ЗША вельмі зацікаўленыя ў тым, каб Беларусь, застаючыся сувэрэннай дзяржаваю, у той жа час ішла да дэмакратыі. Спадарыня Олбрайт таксама падзяляе нашую заклапочанасьць тым, што на Беларусі сеньня ня могуць адбыцца дэмакратычныя, справядлівыя парлямэнцкія выбары. Яна прыхільна ставіцца да таго, што апазыцыя ня можа ўдзельнічаць ў такім фармаце, бо гэта будзе падманам нашых выбаршчыкаў, і не прывядзе да пазытыўных зьменаў на Беларусі.

У гэты ж дзень у беларускае дэлегацыі адбылася яшчэ адна важная сустрэча: дзьве гадзіны зь беларускімі дэмакратамі гутарыў кіраўнік інстытуту Адкрытага грамадзтва Джордж Сорас. Распавядае Анатоль Лябедзька.

**А.Л.:** - Як нам сказалі, даўно ўжо спадар Сорас ня гутарыў такі працяглы час зь нейкай дэлегацыяй. Вельмі цёплая сустрэча, вельмі цікавы абмен думкамі. Не было закрытых нейкіх тэмаў, і мы атрымалі вялікае задавальненьне, як чалавечае, так і эстэтычнае, ад гэтае сустрэчы. Спадар Сорас, да прыкладу, у нас цікавіўся, як справы у Эўрапэйскага гуманітарнага ўнівэрсытэту... натуральна, што гэта не падтрымка апазыцыі, але гэта ўклад і інвэстыцыя ў будучыню Беларусі, у яе інтэлект, і, натуральна, што такія праэкты мы падтрымоўваем. Разам з тым варта адзначыць, што спадар Сорас - вельмі вядомая асоба ў сьвеце, і ў яго ёсьць кантакты ня толькі зь філянтропамі, дзеячамі культуры, навукі, але й з палітыкамі - людзьмі, якія прымаюць палітычныя рашэньні.

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пpускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ (ЗША)

# БЕЛАРУСЬ І ПУЦІНСКАЯ РАСЕЯ

3-га мая 2000 году з ініцыятывы вялікага прыяцеля нашае Бацькаўшчыны і беларускае незалежнасьці Сэма Гэйдэнсана, кангрэсмэна з штату Канэктыкут, Палата Прадстаўнікоў амэрыканскага Кангрэсу прыняла гістарычную рэзалюцыю ў справе Беларусі. Рэзалюцыя ня толькі сурова асуджала парушэньне правоў чалавека ў Беларусі і задушэньне працэсу дэмакратызацыі грамадзтва, але і зьвярнулася да Лукашэнкі з заклікам пачаць перамовы з прадстаўнікамі апазыцыі і аднавіць канстытуцыйныя правы беларускага народу. Рэзалюцыя таксама заклікала Расейскую Фэдэрацыю паважаць сувэрэннасьць Беларусі. Рэакцыя Расеі была вельмі нэгатыўнай. Расейскае міністэрства замежных справаў назвала Рэзалюцыю правакацыяй, з якою "Кангрэс Злучаных Штатаў умешваецца ва ўнутраныя справы дзьвюх незалежных дзяржаваў". Падкрэсьлівалася, што інтэграцыя Беларусі з Расеяй застаецца і надалей прыярытэтам расейскай замежнай палітыкі. Беларуская рэакцыя, ці хутчэй, рэакцыя менскае філіі расейскага міністэрства замежных справаў, была вельмі тыповаю для дагодлівага "малодшага брата" — яшчэ больш варожаю і задзірлівaю.

Напрацягу апошніх чатырох стагодзьдзяў прыярытэтам расейскае замежнае палітыкі было пашырэньне імперыі ў заходнюю Эўропу, Далёкі Ўсход, Каўказ і Сярэднюю Азію. Усё гэта рабілася пад выглядам умацаваньня бясьпекі расейскае дзяржавы, якой нібыта, пагражалі вонкавыя ворагі, якія заўсёды на яе нападалі.

Адным з найбольш зьдзіўляючых аспектаў палітыкі Расеі ўсіх колераў і ўсіх часоў было стварэньне жалю да сябе і свайго народу і імкненьне атрымаць калі не спагаду, дык зразуменьне вонкавага сьвету і паказаць, што ў сваіх экспансыўных паводзінах Расея кіравалася выключна ўмацаваньнем свае дзяржаўнае бясьпекі і дабрабытам народаў, якіх яна "вызваляла" ад таго ці іншага ўціску. Расейская эліта заўсёды тлумачыла свайму народу і вонкаваму сьвету, што расейскі народ быў гістарычнаю ахвяраю чужынцаў, незалежна ад паводзінаў расейскае нацыі і яе лідэраў. Пад выглядам дзяржаўнае бясьпекі тварыліся буфэрныя зоны, мяняліся межы расейскае імперыі, накідаліся расейскія структуры суседнім дзяржавам, а разам з тым на новых межах паўставалі новыя "варожыя" краіны, якія, для Расеі з яе сталым пачуцьцём падазронасьці і недаверу, стваралі новыя ўяўныя пагрозы. Пашырэньне імперыі рабілася бясконцым працэсам. І вось цяпер, калі межы Расеі сталіся амаль такімі, якімі яны былі падчас панаваньня Пятра І, Расея, на добры лад, павінна-б зьмірыцца з тэрытарыяльнымі стратамі свае імперыі і пачаць будаваць гістарычна для яе незвычайныя структуры — дэмакратычныя інстытуты. Ці пойдзе Расея такім шляхам? Хутчэй усяго, што не.

Аналізуючы дэклярацыі новага расейскага прэзыдэнта і ягоную кароткую дзейнасьць — аптымізму мала. Можна быць пэўным, што калі Расея не пакіне прапагаваць сваю ідэю, што яна ёсьць ня меншаю ахвяраю вонкавых ворагаў, як захопленыя ёю і падуладныя ёй народы, як гэта робіцца ў Чэчні, у расейскім мэнталітэце пераменаў ня будзе. А таму цяжка чакаць адчувальнага палепшаньня ў адносінах паміж Захадам і Ўсходам.

Заходнія краіны не павінны трымацца палітыкі самаашуканства, не павінны верыць у тое, што ў Расеі ўжо канчаецца працэс дэмакратызацыі грамадзтва толькі таму, што там ужо адбыліся другія нібы дэмакратычныя выбары прэзыдэнта. Захад павінен устрымоўвацца ад запабягальных рэвэрансаў у бок новага расейскага прэзыдэнта, бо-ж ён яшчэ ня меў часу паказаць сваю, у лепшым выпадку, прыхільнасьць да развіцьця дэмакратыі ды, наогул, свой намер у галіне эканамічных і палітычных пераўтварэньняў у Расеі. Тым больш, што ў аспэкце антыдэмакратызму сваіх паводзінаў і дэклярацыяў, Уладзімер Пуцін за гэты кароткі час сёетое ўжо паказаў.

Для таго каб хоць коратка прааналізаваць магчымую палітыку будучае Расеі, трэба зьвярнуцца да недалёкага мінулага і пазнаёміцца з поглядам новага расейскага прэзыдэнта на гэтае мінулае ў сёньняшніх абставінах. Бо-ж Пуцін будуе расейскі дзяржаўны шлях, якім пойдзе будучая Расея.

У 1994 годзе чачэнцы адзначалі сумную дату — 50-я ўгодкі трагэдыі свайго народу. У лютым месяцы 1944 году савецкі ўрад вырашыў быў зьнішчыць чачэнцаў, як нацыю, вывезьці іх з іхняе бацькаўшчыны і разагнаць па лягерох бясконцых стэпаў Сярэдняй Азіі. Паводле жудаснае задумы савецкіх уладаў, голад і холад павінны былі назаўсёды пакончыць з існаваньнем "чачэнскае параблемы".

За апошні тыдзень лютага 1944 году, 390 тысяч чачэнцаў і 90 тысяч інгушаў, этнічна блізкага да чачэнцаў народу, было зьгнана ў цёмныя таварныя вагоны і адпраўлена ў далёкія пасяленьні, каб адтуль ужо ніколі не вярнуцца. Адразу-ж зьнікла з гэаграфічных картаў, падручнікаў і даведнікаў Чачэня-Інгушская Аўтаномная Рэспубліка і яе народы. Адміністрацыйна на яе месцы паўстала расейская Грозненская вобласьць, якая праіснавала да 1957 году.

Дык чым-жа ўгнявілі чачэнцы сваіх расейскіх "гаспадароў"? Справа ў тым, што падчас Другое сусьветнае вайны паўночна-заходняя частка Каўказу ў канцы 1942 і пачатку 1943 году была акупавана Нямеччынай. Савецка-расейскі ўрад абвінаваціў невялікія мусульманскія каўказкія народы ў супрацоўніцтве з нацыстамі. Гэта і было зачэпкаю, каб пазбавіцца ад гэтых народаў, а разам з імі выкінуць і волялюбных чачэнцаў, якія, дарэчы, немцамі акупаванымі ніколі не былі. Надарылася, маўляў, нагода адплаціць непаслухмяным бунтаўшчыкам. У пасьлясталінскую адлігу тыя, што выжылі змаглі вярнуцца на свае землі.

У 1994 годзе, падчас адзначэньня нацыянальнай трагэдыі, калі вялічэзныя шыльды з лічбаю "50" на полі крывава-чырвонага полымя і выючага ваўка — нацыянальнага сымбаля Чачні, "упрыгожылі" цэнтр чачэнскае сталіцы, расейскі прэзыдэнт Ельцын быў выказаў вельмі стрыманае спачуваньне чачэнскаму народу за адчыненае яго вынішчэньне, ні словам, аднак, не абмовіўшыся пра вінаватасьць Расеі ў гэтым ганебным учынку. Разам з тым, з незразумелай помстаю, расейскі ўрад ня мог дачакацца таго балючага для чачэнцаў году, каб не пачаць барацьбу з чачэнскімі "бандытамі". У сьнежні 1994 году памятныя шыльды чачэнскай трагэдыі сталіся першымі ахвярамі расейскага бамбаваньня.

Сваёю раптоўнасьцю другая чачэнская вайна мала адрозьнівалася ад першай. Дзякуючы гэтай апошняй вайне Ўладзімер Пуцін зрабіў сваю вялікую кар'еру. Барацьбу за незалежнасьць нацыі ён ператварыў у барацьбу з тэрарыстамі і бандытамі. Ён зруйнаваў чачэнскія гарады і вёскі. Ён забараніў усякую праўдзівую інфармацыю, якая-б магла ісьці з чачэнскага зьганага краю. Для яго расейскія імперскія амбіцыі стаяць вышэй праўды і справядлівасьці. Спачуваньня чачэнцам няма і ня будзе. На ўвесь народ павесілі шыльду тэрарыстаў.

У канцы мінулага году Пуцін сфармуляваў свой погляд на будучую Расею ў сваім праграмным артыкуле "Расея на рубяжы тысячагодзьдзяў". Некаторыя ідэі таго артыкулу былі выказаны ў ягонай інаўгурацыйнай прамове, у якой новы прэзыдэнт Расеі не палічыў патрэбным гаварыць пра дэмакратызацыю грамадзтва, а рабіў націск на разьвіцьцё і пабудову магутнасьці расейскае дзяржавы. Вось што было ляйтматывам ягонае прамовы: "Мы павінны ведаць сваю гісторыю, ведаць якою яна сапраўды ёсьць, чэрпаць з яе лекцыі і заўсёды памятаць тых, хто стварыў расейскую дзяржаву, бараніў яе годнасьць, зрабіў яе вялікаю, моцнаю і магутнаю дзяржаваю". Гэтыя словы стаяць вельмі далёка ад жаданьня зрабіць Расею вольнай і дэмакратычнай краінай, у якой шанаваліся-б правы чалавека, у якой уся дзяржаўная структура была-б пастаўлена на новыя рэйкі пабудовы дэмакратычнага грамадзтва. Такое-ж стаўленьне да расейскае дзяржаўнасьці было выказана і ў "Тэзах Рады вонкавай і абароннай палітыкі", выдадзеных расейскім урадам у канцы мінулага году, калі Ўладзімер Пуцін быў яшчэ прэм'ер міністрам. У гэтых тэзах гаварылася пра неабходнасьць стварэньня адзінае для ўсяго СНГ эканамічнае прасторы, у якой галоўным рухавіком будзе, звычайна, Расея, а ўсе іншыя будуць выконваць ролю паслухмяных паслугачоў.

Напрацягу амаль усяго апошняга дзсацігодзьдзя Расея рабіла ўсё, каб здабытая незалежнасьць былых савецкіх рэспублікаў была для іх вельмі нялёгкаю. Яна і да сёньняшняга дня трымае свае базы ў Арменіі, Грузіі і Малдове, ня кажучы ўжо пра Беларусь. Яна робіць вялікі эканамічны ціск на новыя незалежныя краіны, намагаецца стварыць прывабную, хоць, да сьмеху, ілюзорную прынаду (маўляў, газ і нафта будуць дарам!..) да павароту гэтых краінаў у старую імперыю.

Яшчэ перад прэзыдэнцкімі выбарамі Ўладзімер Пуцін абяцаў усталяваць у Расеі "дыктатуру закону". Праз менш як тыдзень пасьля прыняцьця прысягі прэзыдэнта Пуцін паказаў, што на самай справе хаваецца пад выразам "дыктатура закону", асабліва калі гэта тычыцца свабоды друку. Моцна ўзброеныя людзі ў камуфляжнай вайсковай вопратцы і чорных масках (і гэта-ж ня нейкія там бандыты з вуліцы, а прадстаўнікі дзяржавы) уварваліся ў незалежную інфармацыйную арганізацыю "Мост" у Маскве, загналі ўсіх працаўнікоў у сталовую, а самі, тым часам, вывезьлі дакуманты, відыя істужкі і тэхнічнае абсталяваньне, каб выканаць "тэхнічны аналіз". Расейскія ўрадоўцы, даючы невыразныя і супярэчлівыя тлумачэньні наконт неабходнасьці нападу, яшчэ больш верагодным рабілі падазронасьць таго, што Пуцін хацеў запалохаць, а гэтым самым і спыніць дзейнасьць цэнтру аб'ектыўнай інфармацыі ў Расеі.

Калі ўсе пададзеныя вышэй крокі пуцінскай дзейнасьці ўнутры краіны не былі па сваёй сутнасьці дэмакратычнымі, дык у замежных справах яшчэ горш — лепшага чакаць было-б вельмі наіўным.

На пачатку мінулага мая Расея запрасіла да сябе югаслаўскага міністра абароны генэрала Драгалюба Айданіча, чалавека, які абвінавачваецца міжнародным трыбуналам Аб'еднаных Нацыяў у Гаазе ў злачыннасьці супроць людзкасьці. Айданіча ў Расеі ня толькі не арыштавалі, як таго вымагаюць пастановы гаагскага трыбуналу, але ён быў гасьцём міністра абароны Расеі і кіраўніка штабу расейскай арміі.

Пуцінская Расея паказала бессаромную пагарду да міжнароднай арганізацыі, паказала, што ў справах міжнародных паводзінаў яна кіруецца сваімі ўласнымі правіламі, як калісьці гэта рабілі палітыканы савецкае Расеі.

Усё гэта паказвае, што пасьля некалькіх кароткіх гадоў палітычнага забыцьця, Расея ідзе назад, вяртаецца да свае гістарычнае мэнтальнасьці.

Захоп Беларусі Расеяй будзе, напэўна, прысьпешвацца, бо для Расеі гэта ёсьць вельмі важным першым крокам у адбудове старое імперыі.

**Ванкарэм Нікіфаровіч (ЗША)**

# Пясьняр хараства і свабоды

15-га ліпеня спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэньня аднаго з найвыдатнейшых беларускіх паэтаў **Уладзімера Дубоўкі.** Яго імя сёньня стаіць побач з імёнамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і ўсіх тых, хто ў першыя дзесяцігодзьдзі мінулага веку высока падняў сьцяг беларускага нацыянальнага духоўнага адраджэньня. Сваімі натхнёнымі вершамі і паэмамі, мастацкімі перакладамі, высокім гуманістычным гучаньнем сваёй творчасьці, эстэтычнымі пошукамі найдасканалай формы, глыбокай вобразнасьцю і выкарыстаньнем магчымасьцяў нашай роднай мовы. Уладзімер Дубоўка ўзьнімаў беларускае прыгожае пісьменства на высокі сусьветны ўзровень, нібы падхапіўшы запавет Максіма Багдановіча: "Ня толькі свайму народу… але і сусьветнай культуры - свой дар". Яго творчасьць зьяўляецца яскравым узорам сапраўднага служэньня сваёй Бацькаўшчыне, узорам адданасьці свайму народу, яго мове, яго гістарычнай духоўнасьці.

Мне пашчасьціла ў сваім жыцьці добра ведаць гэтага чалавека, часта сустракацца з ім, гутарыць, працаваць над выданьнем яго "Выбраных твораў" у двух тамах і кніжачкі "Санэтаў" Вільяма Шэкспіра ў яго перакладах. Праўда, было гэта ў шасьцідзесятыя гады, калі Уладзімер Дубоўка вярнуўся да літаратурнай дзейнасьці пасьля амаль трыццаці гадоў бяспраўя і страшэнных фізычных і маральных пакутаў у савецкаімпэрскіх карных лагерах. Арыштаваны Дубоўка быў у 1930 годзе без абсалютна ніякіх падставаў; таталітарная ўлада па камандзе з Масквы ўжо тады пачынала баяцца людзей здольных, таленавітых, якія сапраўды верылі ў высокія гуманістычныя ідэалы і жадалі дабрабыту свайму народу. Блуканьне Уладзімера Дубоўкі па пакутах гулагаўскага пеклу – тэма, якая яшчэ чакае свайго ўвасабленьня як моцны прысуд той антычалавечай сістэме, тым уладам і яе карным органам.

Мы пазнаёміліся ў 1963 годзе ў менскім выдавецтве "Беларусь", дзе я працаваў рэдактарам у рэдакцыі мастацкай літаратуры. Уладзімер Мікалаевіч жыў, як і да свайго арышту, у Маскве, але ў Менск прыязджаў даволі часта. Вось і тады ён прывёз рукапіс сваіх перакладаў шэдэўра сусьветнай паэзіі – санэтаў Вільяма Шэкспіра. Рэдагаваць і рыхтаваць гэты зборнічак да друку даручылі мне. Можа таму, што ў мяне ўжо быў пяцігадовы стаж выдавецкай працы і я лічыўся "спецыялістам" па выданьню былых рэпрэсіраваных і цяпер рэабілітаваных аўтараў – падрыхтаваў да друку кнігі Васіля Каваля, Міколы Хведаровіча, Андрэя Александровіча.

Тады мы добра пагаварылі; пазьней сустракаліся і па-за сьценамі выдавецтва. Я быў надзвычай уражаны адказным і ўважлівым падыходам Дубоўкі да перакладаў з Шэкспіра, яго дасканалым веданьнем ангельскай і стара-ангельскай мовы, веданьнем і разуменьнем многіх тонкасьцяў і асаблівасьцяў шэкспіраўскага тэксту. У мяне, натуральна, узьнікалі шматлікія запытаньні, многія з якіх, як бачыцца сёньня, былі выкліканы проста тады яшчэ маёй маладосьцю і недасьведчанасьцю. Але Уладзімер Мікалаевіч выслухоўваў усё вельмі ўважліва і даваў падрабязныя найвычэрпныя адказы, а нешта тлумачыў, альбо прапаноўваў новыя варыянты радкоў і строфаў пазьней, праз колькі дзён пры асабістых сустрэчах альбо прысылаў лісты з Масквы. Увогуле ў тыя месяцы 1964 году, калі ішла падрыхтоўка "Санэтаў" Шэкспіра да друку, я амаль штодзень атрымліваў ад Уладзімера Дубоўкі лісты з ягонымі разважаньнямі, з новымі варыянтамі беларускага гучаньня асобных шэкспіраўскіх словазлучэньняў, радкоў, строф, нават цалкам санэтаў, прычым кожны варыянт суправаджаўся параўнаўчымі спасылкамі ня толькі на арыгінал, але на некаторыя пераклады на расейскую і іншыя славянскія мовы. "Мілы Рэм! – пачынае, напрыклад, Уладзімер Дубоўка свой ліст ад 29 мая 1964 году. – Мая жонка кажа, вы пэўна першага такога неспакойнага "кліента" спаткалі. Учора паслаў вам ліст з новым варыянтам першага санэта, а сёньня ўздагон пасылаю папраўкі…" "Як бачыце, "агонь Шэкспіраў" цяжка даецца, - прызнаўся ў наступным лісьце У.Дубоўка, працягваючы настойліва пошукі найбольшай дакладнасьці і выразнасьці ў сваіх перакладах. Таму многія шэкспіраўскія радкі і гучаць па-беларуску амаль афарыстычна:



Уладзімер Дубоўка

Краса ніколі не памрэ на сьвеце, -  
Тварэньні дзіўныя прыносяць плён.  
Пялёсткі вянуць на ружовым цьвеце,  
Ды аднаўляе памяць іх бутон.

Альбо:

Твой вечны помнік – мой сардэчны верш,  
Для нашых дзён, для часу, што настане,  
Для тых людзей, з якімі ты жывеш,  
Для тых, што прыйдуць пасьля іх згасаньня.  
Так, як дыханьне з роду ў род ідзе,  
Ты будзеш жыць на вуснах у людзей…

Па маёй настойлівай ініцыятыве афармленьне будучай кнігі было даручана тады яшчэ зусім невядомаму маладому мастаку Барысу Забораву. Сёньня ён – мастак з сусьветным імем, жыве ў Парыжы; многія старонкі яго жывапісу і графікі – значны ўклад у беларускае мастацтва. Выдадзеная тады кніжачка "Санэтаў" Вільяма Шэкспіра ў перакладах У. Дубоўкі атрымала ці не самую першую ўзнагароду ў наступным годзе на Сусьветным кніжным кірмашы. Але значэньне гэтага выданьня – і гэта добра разумеў Уладзімер Дубоўка – перш за ўсё ў тым, што яно было яшчэ адным важным крокам, які далучаў, яднаў беларускую паэтычную культуру з сусьветным літаратурна-гістарычным кантэкстам. На жаль, выдадзена кніга была тыражом усяго толькі ў 1000 адменьнікаў; яна адразу стала бібліяграфічнай рэдкасьцю.

Новыя сустрэчы, новыя найцікавейшыя размовы з Уладзімерам Дубоўкам пачаліся ў нас у другой палове таго ж 1964 году, калі ён дамогся ў начальства, каб я быў выдавецкім рэдактарам запланаванага на выпуск у наступным годзе двухтомніка яго выбраных твораў. Такога выданьня тады чакалі многія, бо выдадзены адразу пасьля рэабілітацыі аўтара маленечкі аднатомнік паэта не даваў цэласнага ўяўленьня аб яго творчасьці і яе значэньні для беларускай літаратуры і беларускага адраджэнскага руху. Таму, калі мы рыхтавалі гэты двухтомнік, асноўнае пытаньне было: што ўключыць у яго, асабліва з твораў, напісаных Уладзімерам Дубоўкам у дваццатыя і трыццатыя гады, да арышту.

Грамадска-палітычная атмасфера на Беларусі тады, ў сярэдзіне шасьцідзесятых гадоў была вельмі няпростай. Перыяд так званай "хрушчоўскай адлігі" ў былым Саюзе ССР скончыўся, камуністы паціху адраджалі сталінізм і дыктатуру сваёй партыі. Юрыдычная рэабілітацыя безпадстаўна асуджаных зусім не азначала поўнага аднаўленьня іх у грамадзянскіх правах, прызнаньня іх роўнасьці з усімі астатнімі жыхарамі краіны. Улада і яе ідэалагічныя наглядчыкі стараліся адмежавацца ад гэтых людзей, у прыродзе таго грамадскага ладу была неабходнасьць пастаянна мець на ўсялякі выпадак ворагаў, каб даказваць неабходнасьць таталітарызму. Гэта вельмі добра разумеў і адчуваў, як кажуць, на ўласнай скуры Уладзімер Дубоўка. Пачынаючы з трыццатага году, яму кожны раз давалі ўсё новыя і новыя тэрміны зьняволеньня, ганялі па лагерах Кіраўскай вобласьці, Чувашыі, Зауральля, Грузіі, Краснаярскага краю, Далёкага Ўсходу. Што толькі яму не давялося перажыць – і голад, і цяжкія хваробы, і фізычны зьдзек; і ўвесь час - аніякай літасьці, аніякіх адказаў на просьбы аб спагадзе. Рабілася проста жудасна і невыносна, калі Уладзімер Мікалаевіч расказваў асобныя эпізоды свайго шматпакутнага жыцьця ў тыя гады…

Але вось, рэабілітаваны, ён вярнуўся. Да арышту ён жыў у Маскве: вучыўся ў Валерыя Брусава ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце, працаваў у розных беларускіх прадстаўніцтвах і быў рэдактарам беларускіх тэкстаў усіх саюзных законаў – тады камуністы яшчэ падтрымлівалі гульню ў роўнасьць нацыяў… Цяпер жа, вярнуўшыся, ён хацеў зусім не адлучацца ад радзімы, хацеў жыць і працаваць на Беларусі. Адразу ж пасьля вызваленьня ў 1958 годзе ён з жонкай, Марыляй Пятроўнай, прыехаў у Менск. Абяцаўшы неўзабаве даць кватэру, іх пасялілі ў пакойчыку гасьцініцы "3-яя Савецкая", што месьцілася ў чатырохпавярховым будынку насупраць паўночнага крыла цяперашняга гатэлю "Менск". А вакно гэтага пакойчыка выходзіла на двор Пішчалаўскага замку, славутай турмы на вуліцы Валадарскага, і глядзелася якраз на вокны той камеры, дзе тады, у 1930-м, Уладзімера Дубоўку трымалі і катавалі ледзь ня штодзень, дамагаючыся прызнаньня ў антысавецкай дзейнасьці. Пасялілі яго там вядома чаму, каб не забываў… Дык вось, жыве ён з жонкай у гэтым пакойчыку месяц, другі, трэцьці, ніякай кватэры не даюць, Дубоўка ходзіць да начальства, да Броўкі і Глебкі, што кіравалі тады Саюзам пісьменнікаў, але вынікаў няма. Каля дзевяці месяцаў пражылі яны з Марыляй Пятроўнай ў гэтай гасьцініцы, потым сабраліся і паехалі ў Маскву.

Маскоўскае пісьменьніцкае кіраўніцтва зьлітасьцівілася – Дубоўку далі маленечкую кватэру ў малагабарытнай "хрушчоўцы", так званую палутарку – аднапакаёвую з маленькай дадатковай нішай тры метры на два ў сьцяне каля акна. Прычым у самым далёкім раёне – у Новых Чарамушках. Потым я неаднаразова бываў там у вельмі ветлівых і гасьцінных гаспадароў, але дабірацца туды з Беларускага вакзалу трэба было ледзь не тры гадзіны…

Добра ведаючы, што такое савецкая ўлада,

Уладзімер Дубоўка быў ужо ў той час вельмі і вельмі асьцярожным, гады пакутаў многаму навучылі. Баяўся не за сябе, а за тых людзей, з кім ён сустракаецца, супрацоўнічае, каму нечым абавязаны, - каб не нашкодзіць ім, каб праз яго ў іх не было ніякіх непрыемнасьцяў. Таму ён так прыдзірліва, з перастраховкай адбіраў творы ў двухтомнік выбранага, асабліва ставячы пад сумненьне тыя вершы і паэмы, што выклікалі ў трыццатыя гады беспадстаўныя адмоўныя ацэнкі вульгарнасацыялагічнай крытыкі. Але ж выраслі новыя пакаленьні чытачоў, якія павінны былі ведаць, хто ёсьць Дубоўка і якое яго месца ў беларускай літаратуры. Мне даводзілася перад здачай двухтомніка ў друк часам спрачацца з аўтарам, пераконваць яго, што тыя ранейшыя ацэнкі ўжо ніколі не паўторацца… Многія вершы Уладзімера Дубоўкі, асабліва паэмы "Кругі", "І пурпуровых ветразей узьвівы", "Штурмуйце будучыні аванпосты!" ("камбайн" – аўтарскае вызначэньне жанру гэтага твору) і сёньня гучаць як узоры сапраўднай высокамастацкай паэзіі, дзе насычаная вобразнасьць зьместу знаходзіла ўвасабленьне ў пошуках новай формы, у тых зрухах у паэтычнай мове, што былі ўласьцівы ў першай чвэрці стагодьдзя ў лепшых узорах еўрапейскай і расейскай паэзіі.

Вітаючы радасны гон
І творчыя ўзьлёты айчыны,
Мы зьнішчым усякі прыгон –
Над духам,
Над сэрцам,
Над чынам.

Так пісаў Уладзімер Дубоўка ў сваім "Камбайне", прасякнутым, як і ўся паэтычная спадчына паэта, незвычайнай прагай да свабоды як асновы дабрабыту зямлі, чалавека, роднай Беларусі, да свабоды як неабходнай умовы духоўнага адраджэньня.

Аўтара ўдалося пераканаць, усе гэтыя творы ўвайшлі ў выдадзены тады двухтомнік, і чытачы змаглі скласьці неблагое ўяўленьне аб тым, хто такі Дубоўка і якая яго паэзія. Праўда, "Выбраныя творы" выдалі зноў невялікім тыражом – усяго 3 000 адменьнікаў. Забягаючы наперад, скажу, што неўзабаве пасьля выхаду кніжак мяне аднойчы сустрэў адзін вельмі вядомы і яшчэ ўплывовы тады літаратурны крытык і сказаў: "Як вы маглі прапусьціць у друк гэтыя паэмы Дубоўкі? Яны ж накіраваны супраць нашага ладу!" У адказ я толькі ўсьміхнуўся і паціснуў плячыма. Усё ж на двары стаяў 1965-ы, а не 1937 год…

Вельмі зьдзівіў мяне тады і яшчэ адзін эпізод. Да самай апошняй хвіліны Уладзімер Мікалаевіч ня верыў, што гэты двухтомнік выйдзе, што ўлады і цэнзура ўсё прапусьцяць. Пасьля таго, як мы ўзгаднілі разам усе тэксты і рукапісы абедзьвюх кніг пайшлі ў набор, Дубоўка паехаў дадому ў Маскву. Але перад ад'ездам папрасіў мяне: калі прыйдзе сігнальны адменьнік двухтомніка (а гэта значыць, што тыраж надрукаваны і выданьне паступае ў продаж) абавязкова паслаць яму тэлеграму з паведамленьнем пра гэта. Бо тады на яго кватэры ў Новых Чаромушках нават тэлефону не было. У той жа дзень, калі выдавецтва атрымала сігнальныя адменьнікі двух томікаў, я адразу ж пайшоў на пошту і адаслаў Дубоўку тэлеграму: "Усё нармальна, віншую з выхадам вашых выбраных твораў".

Назаўтра вельмі рана, не было яшчэ і шасьці, я прачнуўся: разбудзіў зусім нечаканы настойлівы званок у дзьверы кватэры. Зусім не хацелася, але давялося ўзьняцца і пайсьці да дзьвярэй. Калі адчыніў, вачам свім не паверыў: на парозе стаяў Уладзімер Мікалаевіч Дубоўка. "Вы жывыя? Вас не арыштавалі? З вамі нічога не здарылася?" – пачуліся хуткія запытаньні. Я супакоіў раньняга госьця, сказаў, што ўсё ідзе нібыта нармальна. Толькі потым усьвядоміў, што неспакойны Уладзімер Мікалаевіч ня верыў да апошняй хвіліны, што двухтомнік будзе выдадзены. Атрымаўшы тэлеграму, ён адразу ж паехаў на Беларускі вакзал, яму пашэньціла купіць білет на нейкі зусім нязручны цягнік, што вельмі зарана прыбываў у Менск…

Гэтае чалавечае парыванньне, гэтая шчырасьць і кранальнасьць пачуцьцяў з боку старэйшага за цябе чалавека не забудзецца ніколі. Мужны, высокаадукаваны, нязломны, неспакойны, з сапраўды вялікім інтэлектам, - ён быў гатовы пры любых абставінах памагаць людзям, клапаціцца аб іх.

Такім быў Уладзімер Дубоўка, выдатны дзеяч беларускай літаратуры і культуры мінулага стагодьдзя. Няспынны шукальнік новага зьместу і формы, запявала і сьцяганосец беларускай літаратуры, ён пакінуў і добрую памяць аб ім, і выдатную паэтычную арыгінальную і перакладчыцкую спадчыну, якая ўзьнімае і нас, беларусаў, і нашую духоўнасьць да вышыняў лепшых сусьветных здабыткаў.

# Беларусь -- пакуль не калёнія

**Галіна Жарко**

Нягледзячы на абвешчаную тэму размовы, першае пытаньне вядучага чамусьці тычылася падзеяў у Віскулях, калі перастаў існаваць Савецкі Саюз. Сэнс пытаньня зводзіўся да таго, ці адчувае Станіслаў Шушкевіч сябе вінаватым за развал вялікае дзяржавы, па якой плача большасьць ягоных суайчыньнікаў. Але старшыня Сацыял-дэмакратычнай грамады зьвярнуў увагу вядоўцы на тое, што Беларусь пакуль яшчэ не калёнія Расеі, і асабіста яго дзівіць, чаму праграма вядзецца выключна па-расейску. На гэтым ўласна размова і закончылася. Мы патэлефанавалі Станіславу Шушкевічу адразу пасьля эфіру і ён падзяліўся сваімі ўражаньнямі.

**С.Ш.:** -- Спачатку прапанавалі мне дома запісаць камэнтар з нагоды падзей, якія могуць быць – ці то перамоваў, ці то дыялёгу. Я сказаў, што ў ніякім выпадку ня буду запісваць нічога дома, таму што вельмі добра ведаю, што з гэтым робяць на тэлебачаньні. У мяне няма ніякага даверу, і таму я магу выступіць толькі ў прамым эфіры. Мне будзе дастаткова нават і 2 хвілінаў. Але адбылося тое, што праз 40 сэкунд мікрафон быў адключаны з такім "хлюгатаньнем". Там зроблена так, што той, хто выступае, сядзіць за аўтаномным сталом, далёкім ад вядоўцы і мае аўтаномны мікрафон, які адключаецца. Гэта своеасаблівая пастка. Ніхто з маіх сяброў не зьдзіўляецца таму, што адбылося.

**КАР.:** -- Гэта прагучала, як яшчэ адзін доказ, што выступ у прамым эфіры немажлівы?

**С.Ш.:** -- Як доказ таго, што ніякай свабоды слова, ніякага прамога эфіру. Я ніколі не гляджу "Панараму", я ня ведаў гэтага Юрыя. А ведаў там другога …(абразьлівае слова – кар.) Па тэлефоне размова была нармальная, але я бачу, што яблычка ад яблынькі недалёка коціцца. І гаварыць пра мажлівасьць абмеркаваць нейкую палітычную праблему альбо зрабіць нейкую палітычную заяву – абсалютна выключана.

**КАР.:** -- Было досыць дзіўна -- тэма размовы была заплянавана, як удзел у дыялёгу, але першае ж пытаньне вядучага было накіравана зусім у іншую плоскасьць.

**С.Ш..:** -- Мне ўсё-роўна, якія будуць задаваць пытаньні. Калі гаворка ідзе пра палітычны момант, дык я б хацеў за нейкую хвіліну-паўтары выказаць сваё разуменьне сытуацыі цяперашняй у Беларусі. Відавочна, чакалася, што я буду спрачацца зь нейкай дробязьзю.

**КАР.:** -- Вы былі гатовыя да размовы пра дыялёг?

**С.Ш.:** -- Я гатовы да любой размовы. Разумееце, справа ж не йдзе пра дыялёг. Гэта ўсё фарс. Таму што адзін бок увесь час, ставячы аб гэтым да ведама місіі АБСЭ, паказвае, што ён гатовы пайсьці на перамовы, але ня так, што ў яго будуць стаяць на горле, а пры выкананьні вельмі-вельмі сьціплых умоваў. І гэта сфармулявана не адзін раз. А другі бок увесь час павялічвае зьнявагу – маўляў, няма там пра што раіцца і высоўвае такіх прадстаўнікоў, якія ня маюць ня тое што ўлады, а ўвогуле ніякага значэньня. Апошні нейкі Андрэеў зьявіўся, дык ён саромеецца давесьці да чалавека, захапіўшага ўладу незаконна, некую інфармацыю, але ён не саромеецца быць праваднікам гвалту над людзьмі, не саромеецца таго, што рэжым зьнішчае людзей, знішчае палітычных дзячоў, фактычна стаў на шлях палітычнага тэрору. Перад гэтым быў Сазонаў, гэта таксама чалавек, які не адыгрывае ніякай ролі. Больш-меньш значная фігура -- Русакевіч. Мне здаецца, калі Русакевіча прызначылі, дык дні ягонага існаваньня пералічаныя. Ён скончыць так, як і Сазонаў. Дыялёгу няма. Ёсьць маналёг, які чытаецца падоўгу, чалавекам прымітыўных перакананьняў, у якога інстынкты працуюць у першую чаргу, а потым зьяўляецца розум, які даганяе. Нешта выпраўляецца розумам. Але вельмі рэдка. Мы слухалі б ізноў мналёг, і ён будзе. Відавочна, праз дзень-другі, таму што працуе ўся арда замяталіных і іншых, каб падрыхтаваць гэта. Пачалася гэтая перадача з таго, што МЗС выказаў занепакоенасьць тым, што Сэнат ЗША выказаў сваю думку, і туды паехалі прадстаўнікі беларускай апазыцыі. Занепакоенасьць ён выказаў! Няхай бы ён выказаў занепакоенасьць, калі зьнік Захаранка, калі зьнік Ганчар, калі судзяць тых, каго ня маюць права судзіць, таму што ёсьць права дэпутацкай недатыкальнасьці. Няма ніякай занепакоенасьці. А тут у іх занепакоенасьць, што прыстойныя людзі гавораць пра непрыстойныя паводзіны. Дзіўныя адбываюцца рэчы. Ёсьць крызіс, які перажывае рэжым, таму што спадае, спадае і спадае жыцьцёвы ўзровень насельніцтва, і нічога яны ня здольныя зрабіць, акрамя як красьці. Што я хацеў сказаць – нават калі гэтую хлусьню пра рост валавага ўнутранага прадукту забыць, ён ня так хутка падае, як падае заработная плата. Чаму яна падае -- таму што абіраюць простага чалавека, абіраюць тых людзей, якія працуюць па найму ў дзяржавы – гэта большасьць, таму што грошы патрэбныя. Паглядзіце, якія ў нас шыкоўныя лядовыя палацы, фэстывалі. Можа трэба было б і дарогу ў якую вёску правесьці, дык да гэтага ж ня дойдзе, ня дойдзе да дабрабыту простага чалавека, да жыцьцёвага ўзроўню, а ўзровень, па ацэнках спэцыялістаў, спаў за апошня 2 гады на 60 %. І гэты спад працягваецца, гэты крадзеж працягваецца, таму што як у савецкія часы, ўсё навокал дзяржаўнае. Ўсё навокал маё. Няма нацыянальнай ідэі. У Расеі ёсьць, Ва Ўкраіны ёсьць. Цяжка, цяжка, але ўсё ж там зьмяняецца сытуацыя да лепшага. А што да Літвы, ды Польшчы, дык наогул гаварыць няма пра што. А тут, бачыце, ваенна-палітычны саюз. Ад каго бараніцца ня ведаю.

**Радыё "Рацыя"**

## 16 чэрвеня, у Вільні прайшла сустрэча

Вінцука Вячоркі й Сямёна Шарэцкага. Старшыня БНФ "Адраджэньне" й Партыі БНФ ды сьпікер Вярхоўнага Савету 13 скліканьня абмеркавалі грамадзка-палітычную сытуацыю, што склалася ў Беларусі.

Падчас сустрэчы была дасягнутая прынцыповая згода ў стаўленьні да задуманых рэжымам выбараў. У сытуацыі, якая склалася ў краіне, лічаць палітыкі, сапраўдных дэмакратычнах выбараў быць ня можа. Тое, што мяркуе правесьці Лукашэнка ўвосень, будзе ня выбарамі, а звычайным фарсам.

Абмяркоўвалася таксама пытаньне пра грамадзка-палітычныя ініцыятывы, якія ўзьніклі ў Беларусі. Суразмоўцы выказаліся пра неабходнасьць таго, каб усе гэтыя ініцыятывы ўзгадняліся зь легітымным заканадаўчым органам Беларусі – Вярхоўным Саветам 13 скліканьня.

Падаецца да ведама наш
e-mail address:
bdigest@iserv.net

## Міхаіл Козак, кандыдат на пасаду амбасадара Злучаных Штатаў Амэрыкі ў Беларусі,

**выступіў 6-га чэрвеня з прамовай перад Камітэтам па міжнародных адносінах Сэнату ЗША, які, як чакаецца, зацьвердзіць прызначэньне Козака на пасаду амбасадара.**

Ніжэй мы друкуем тэкст ягонага выступу ў Сэнаце:

*Спадар старшыня, дзякую за аказаны мне гонар быць разгледжаным Камітэтам у якасьці кандыдата на пасаду амбасадара Злучаных Штатаў у Рэспубліцы Беларусь. Спадзяюся, што тыя 29 год, якія я адпрацаваў у Дзяржаўным Дэпартамэньце ЗША, прынясуць карысьць краіне, у выпадку, калі Сэнат зацьвердзіць маю кандыдатуру.*

*Мінулай восеньню былі вычарпаты тэрмін майго прызначэньня на пасаду кіраўніка дыпляматычнае місыі ў сталіцы Кубы Гаване. Палітыка, дзеяньні й меры бясьпекі, якія былі прынятыя намі там, маюць шмат чаго агульнага з палітыкай, якію праводзіла амбасада ў Менску. Раней я прапрацаваў у якасьці прадстаўніка адміністрацыі на Гаіці. У мяне была мачымасьць пазнаёміцца з рознымі групамі на Гаіты па меры таго, як мы спрабавалі аднавіць там дэмакратычныя працэсы і забясьпечыць рост незалежных інстытутаў грамадзянскае супольнасьці. Мне давялося шчыльна супрацоўнічаць з Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў, нашымі партнэрамі, а таксама зацікаўленымі асобамі з Кангрэса. Разам мы рабілі ўсё магчымае, каб аказаць падтрымку тым, хто падзяляе нашыя дэмакратычныя погляды.*

*У канцы тэрміну кіраваньня адміністрацыі Рэйгана і на працягу практычна ўсяго тэрміну працы адміністрацыі Буша, я быў першым намесьнікам памагатага Сакратара па міжнародных адносінах. У гэтай якасьці я быў задзейнічаны ў працы па распаўсюджваньню дэмакратычных пераўтварэньняў у Панаме, Нікарагуа і Эль Сальвадоры. Такім чынам, у мяне ня толькі атрымалася назапасіць пэўны вопыт ва ўзаемаадносінах з грамадзкасьцю згаданых краінаў, але й з нашым уласным Кангрэсам. Дадзены вопыт толькі замацаваў маю думку, што калі мы хочам мець посьпех на міжнароднай арэне, нам трэба атрымаць шырокую, двухпартыйную падтрымкай нашае зьнешняй палітыкі ў сябе дома.*

*Перад маім прызначэньнем у Бюро па міжамэрыканскіх адносінах, спадар старшыня, я прапрацаваў 17 год у офісе Юрысконсульта Дзяржаўнага Дэпартамэнта ЗША і завершыў сваю кар'еру ў гэтай ўстанове на пасадзе першага намесьніка Юрысконсулта. У гэтай якасьці я здолеў паўдзельнічаць у шматлікіх цікавых перамовах. Што яшчэ больш істотна, на мой погляд, у мяне была цудоўая магчымасьць пераканацца ў тым, наколькі важны прынцып вяршыні закона для існаваньня дэмакратыі ў шматлікіх кропках зямнога шару.*

*На прыканцы, спадар старшыня, хачу адзначыць, што я меў шчасьце шчыльна супрацоўнічаць з такімі гігантамі нашае дыпляматыі як Элсуорс Банкер, Філ Хабіб і Лары Іглбергер, роўна як і зь іншымі зь ліку прадстаўнікоў выканаўчай ўлады і Кангрэса. Урокі, якія чалавек засвойвае са стасункаў з гэтымі людзьмі, ўяўляюцца для мяне вельмі істотнымі.*

*Як вам вядома, Беларусь перажывае глыбокі канстытуцыйны і палітычны крызіс. Гэты крызіс быў справакаваны неканстытуцыйнымі спробамі абранага ў 1994г. прэзыдэнта працягнуць прабываньне на пасадзе і падначаліць аўтарытэту выканаўчае ўлады ўсе самыя важныя інстытуты беларускае дзяржавы. Палітыка аднаўленьня ў краіне ўраду савецкага кшталту без сумніву дрэнна адбілася на сытуацыі з правамі чалавека, а таксама эканамічным і сацыяльным дабрабыце грамадзянаў Беларусі. І таму цалкам апраўданая занепакоенасьць суседзяў Беларусі па Эўропе, якія лічаць, што калі сытуацыя будзе пакінутая сама на сябе, крызіс можа дасягнуць такіх памераў, што закране іх уласныя інтарэсы. У сваю чаргу, падтрымка Беларусьсю іншых варожых нам рэжымаў абсалютна відавочна шкодзіць і нашым інтарэсам. Прадстаўнікамі дадзенага камітэта, якія нядаўна пабывалі зь візытам на Беларусі, напісаная цудоўная справаздача, якая праводзіць удалае параўнаньне гэтае краіны з Кубай, але толькі эўрапейскай.*

*Калі мне паведамілі, што мая кандыдатура прапанаваная на пасаду амбасадара ў Рэспубліцы Беларусь, я вырашыў азнаёміцца зь інфармацыяй нашае амбасады, прэсы, а таксама міжнародных няўрадавых арганізацыяў. Я быў уражаны падобнасьцю сродкаў, якія выкарыстоўваюцца рэжымамі Кастра й Лукашэнкі для ўсталяваньня кантролю над уласным насельніцтвам. За выключэньнем толькі імёнаў ахвяраў, апісаньні парушэньняў правоў чалавека ў гэтых дзьвюх краінах практычна ідэнтычныя. Так, напрыклад, заявы прэзыдэнта Лукашэнкі, які абвінавачвае НАТА й ЗША у імкненьні захапіць Беларусь, цалкам супадае з мэтадамі, якія выкарыстоўваў Фідэль Кастра. Пастаўкі беларускай зброі ў Іран і Ірак, у выпадку калі гэтая інфармацыя пацьвердзіцца, негатыўна адаб'юцца як на нашых інтарэсах, так і на інтарэсах сусьветнае супольнасьці.*

*Спадар старшыня, на мой погляд Кангрэсам і выканаўчай вэртыкальлю дасягнуты двухпартыйны кансэнсус па пытаньні прыярытэтнасьці падтрыманьня Злучанымі Штатамі высілкаў беларускіх людзей і зацікаўленых краінаў у аднаўленьні дэмакратычных парцэсаў у гэтай краіне. Нашай задачай не зьяўляецца стаць на нечы пэўны бок ва ўнутранай палітыцы Беларусі, ні тым больш спрабаваць здагадацца наконт патэнцыйных пераможцаў і тых, хто прайграе. Насупраць, мы зацікаўленыя ў аднаўленьні і падтрыманьні дэмакратычных пераўтварэньняў, якія б дазволілі народу Беларусі рабіць свой ўласны выбар мірным шляхам.*

*Калі мая кандыдатура будзе зацьверджаная, спадар старшыня, я зраблю ўсё, што ад мяне залежыць, каб працягнуць вялікую працу, якая была праведзеная папярэдняй амбасадай, па дасягненьні пастаўленых мэтаў. Я таксама пастараюся апраўдаць надзеі, якія на мяне ўсклалі вы – сябры Сэната, прэзыдэнт, вялікія амэрыканскія дыпляматы й палітычныя лідэры.*

*Дзякую за ўвагу.*

---

**Прэзыдэнту ЗША**
**Уільяму Клінтану, Белы Дом, Вашынгтон**

Мы зьвяртаемся да Вас сёньня з просьбай аб даданьні беларускага пытаньня ў парадак дня Вашае сустрэчы з расейскім прэзыдэнтам Уладзімірым Пуцінам на наступным тыдні.

Аўтарытарны ўрад беларускага прэзыдэнта Аляксандра Луакшэнкі працягвае прымаць рэпрэсыўныя мэры супраць дэмакратыі й адкрытага грамадзтва, што разьвіваюцца ў гэтае краіне. Рэжым Лукашэнкі прадэманстраваў поўную адсутнасьць прагрэсу на шляху да паляпшэньня сытуацыі з правамі чалавека на Беларусі. У мінулым годзе бязь вестак зьніклі тры лідэры апазыцыі, а былы прэм'ер-міністар краіны Міхаіл Чыгір знаходзіцца пад падпіскай аб нявыезьдзе па абвінавачваньні ў "злачынствах", якія ён быццам бы зьдзейсьніў падчас працы прэмерам. Больш за тое, дэмакратычная апазыцыя ня можа разьлічваць на свабодныя й справядлівыя выбары ў парлямэнт, якія пройдуць увосень, да таго часу пакуль ня будуць унесеныя істотныя зьмены ў выбарчы кодэкс Беларусі і апазыцыя не атрымае доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Рэжым Лукашэнкі ні разу не прадэманстраваў прыкметаў таго, што апазыцыя ўсёж атрымае магчымасьць удзельнічаць у выбарах.

Паміж тым, Расея й Беларусь працягваюць умацоўваць інтэграцыйныя працэсы, што, калі ўлічыць нелегітымнасьць рэжыму Лукашэнкі, цалкам верагодна зьяўляецца парушэньнем дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. Згодна з апошнімі дадзенымі Цэнтрабанк Расеі зьбіраецца даць Беларусі крэдыт у памеры 200 мільёнаў даляраў для падтрыманьня беларускага рубля. Папярэднія справаздачы таксама ўзгадвалі прадастаўленьне шматмільённых штогадовых крэдытаў з боку Расеі. Цалкам верагодна, што прэзыдэнт Пуцін валодае сур'ёзным рычагом уціску на Аляксандра Лукашэнку і здольны прымусіць апошняга паважаць правы чалавека й забясьпечыць неабходныя ўмовы для ўдзелу апазыцыі ў выбарах. Мы заклікаем Вас запатрабаваць ад прэзыдэнта Пуціна спыненьня фінансавай дапамогі рэжыму Лукашэнкі, прыпыненьня далейшага інтэграваньня Беларусі ў склад Расеі, а таксама выказаць падтрымку намаганьням КГН АБСЭ на Беларусі, накіраваным на стварэньне роўных умоваў для апазыцыі падчас правядзеньня восеньскіх выбараў.

Спадар прэзыдэнт, як Вам магчыма вядома, 3-га траўня Палата Прадстаўнікоў прыняла рэзалюцыю, што асуджае неабмежаванасьць аўтарытарнага рэжыму Лукашэнкі і заклікае Вас падняць пытаньне аб спыненьні фінансавай падтрымкі рэжыму Лукашэнкі на самым высокім узроўні ў расейскім урадзе. Мы таксама заклікаем Вас скарыстацца з прадастаўленай Вам магчымасьці, а менавіта сустрэчай з прэзыдэнтам Пуціным, і адрэагаваць адпаведным чынам на просьбу Кангрэса.

З найлепшымі пажаданьнямі,
Шчыра вашы,
Джэсі Хэлмс і Бэнжамін Гілман
Камітэт па міжнародных адносінах Сэнату ЗША.

---

## Апазыцыя вызначыцца сама

"Эўропа ня будзе рабіць ціск на апазыцыйныя палітычныя партыі й рухі Беларусі з мэтай падштурхнуць іх да ўдзелу у восеньскай выбарчай кампаніі". Пра гэта Адрыян Северын заявіў 20 чэрвеня ў часе закрытай сутрэчы зь сябрамі Кансультацыйнай рады апазыцыйных палітычных партыяў. У часе сустрэчы прадстаўнікі апазыцыйных партыяў агучылі ідэю пераносу восеньскіх парлямэнцкіх выбараў на больш позні тэрмін.

## 4 умовы Эўропы

Міжнародныя назіральнікі будуць прысутнічаць на восеньскіх парлямэнцкіх выбарах толькі ў выпадку, калі афіцыйныя беларускія ўлады выканаюць чатыры умовы — зьмена функцыяў парлямэнту, допуск апазыцыі да дзяржаўных СМІ, дэмакратызацыя Выбарчага кодэксу й стварэньне атмасфэры даверу. Пра гэта ў часе сустрэчы зь першым намесьнікам кіраўніка прэзыдэнцкае адміністрацыі Уладзімірам Заметаліным заявілі сябры эўрапейскае дэлегацыі -- кіраўнік працоўнай групы па Беларусі Адрыян Северын і прадстаўнік Эўрапарлямэнту Ян Віерсма. 21 чэрвеня яны таксама сустрэліся з кіраўніцай Цэнтарвыбаркаму Лідзіяй Ярмошынай і кіраўніком камісіі прэзыдэнцкай палаты прадстаўнікоў Анатолем Красуцкім. Сп-р Красуцкі спрабаваў пераканаць эўрапейцаў, што афіцыйныя беларускія ўлады робяць крокі ў кірунку дэмакратызацыі, уносячы зьмены ў Выбарчы кодэкс.



*КНІГАРНЯ*

# Забойства нацыянальнай ідэі

Вольга АНЦЫПОВІЧ "Наша Свабода"

**Сымон Кандыбовіч. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Бібліятэчка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд». Мн., 2000.**

Нельга сказаць, што пра часы сталінскіх рэпрэсіяў на Беларусі напісана мала. Згадкі ў энцыклапедычных даведніках, агляды ў падручніках па гісторыі, належную ўвагу трагічнай тэме аддаюць публікацыі ў прэсе... Але катастрафічна мала ў нас твораў відавочцаў тых падзеяў. Што зразумела, бо сведкаў злачынстваў засталося ў жывых надта мала, а тыя, што выжылі пасля засценкаў НКУС і савецкіх канцлагераў, імкнуліся ці пакінуць дзяржаву, якая ўпарта хацела іх несправядліва абвінаваціць і «пакараць як шалёных ворагаў савецкага народа», ці ў поўнай немаце жыць у савецкай краіне, стараючыся забыць усё, што адбылося. Першыя сталі эмігрантамі, творы якіх па самім вызначэнні не маглі зьявіцца перад чытачом у савецкія часы, другія, – ненавідзячы тыя часы, баяліся натаваць свае ўспаміны, каб не нашкодзіць дзецям і родным. Таму было ў нас небагата напісанага «ў стол»—для нашчадкаў.

Пра беларускага эмігранта Сымона Кандыбовіча на Беларусі ведаюць мала. «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» змяшчае пра яго невялікі артыкул. Паведамляецца, што С. Кандыбовіч быў гісторыкам з вышэйшай адукацыяй, працаваў настаўнікам, а ў 1932 годзе стаў кіраўніком справаў Савету Народных Камісараў БССР. Арыштавалі Кандыбовіча ў 1940 г. Потым ён уваходзіў у склад Беларускай Цэнтральнай Рады, быў кіраўніком яе агульнага аддзелу, удзельнічаў у 2-ім Усебеларускім кангрэсе (чэрвень 1944 г.). З 1963 г. Кандыбовіч працаваў у Інстытуце па вывучэнні СССР, што ў Мюнхене, рыхтаваў матэрыялы для беларускага аддзела радыёстанцыі «Свабода».

Менавіта для перадачаў па гэтай радыёстанцыі Кандыбовіч і напісаў «Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі». На радзіму ж гэты рукапіс трапіў толькі ў 1986 г. І вось праз 14 гадоў пасля гэтага мы маем першае выданне «Разгрому...» асобнай кніжкай.

Унікальнасць выдання заключаецца, у першую чаргу, у аўтарскіх характарыстыках і замалёўках. Менавіта яны пазбаўляюць твор навуковай сухасці, прыводзімыя аўтарам факты і ёсць жывы аповяд пра рэальнае жыццё ў сталінскія часы. У рэчаіснасці заўжды мае значэнне агульная атмасфера, якую цяжка ўявіць сабе наступным пакаленням.

Сённяшні чалавек з цяжкасцю ўявіць сабе такі стан нашага грамадства 30-х гадоў, калі прафэсара Камінскага судзілі выключна з-за «меншавісцкага выгляду», ці гісторыю пра студэнта, якога абвінавачвалі ў шпіянажы на карысць Італіі. Студэнт той доўга адмаўляўся ад прызнання віны, а потым напісаў невукуследчаму, што яго вярбоўшчыкамі былі італьянцы Мікеланджала, Леанарда да Вінчы, Рафаэль і інш. Пасля гэтага следчы цэлыя два тыдні радаваўся, што дабіўся прызнання, і перастаў катаваць студэнта па начах. Магчыма, такія гісторыі перадаюць настроі таго часу, мінскія гарадскія чуткі ці палітычныя анекдоты. Але тым больш гэта цікава, бо адлюстроўвае псіхалагічны стан, па меншай меры, інтэлігенцыі.

Як перабольшванне можна ўспрымаць і характарыстыку Кандыбовічам настрояў большасці людзей («кожная сям'я чакала жахлівых наведвальнікаў... ад страху людзі не кладліся спаць, апраналіся і без мэты блукалі па пустых вуліцах горада да раніцы»). Такія настроі, здаецца, панавалі пераважна тымі, хто ведаў, што робіцца ва ўладзе насамрэч. Магчыма, і самім Кандыбовічам. Большасць жа шчыра верыла, што іх, ні ў чым не вінаватых, ніхто чапаць не будзе. Такія потым думалі, як піша Кандыбовіч, што ў СССР «адбыўся нейкі пераварот і ўсталявалася лютая дыктатура... бянтэжылі толькі партрэты савецкіх правадыроў, што былі ў кабінеце следчага».

Кніга ахоплівае час з лютаўскай рэвалюцыі 1917 году да пачатку Другой сусветнай вайны, распавядае пра некалькі хваляў рэпрэсіяў супраць прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху, змяшчае анатаваны паказнік асобаў, фотаздымкі рэпрэсаваных грамадскіх дзеячаў. Лёгкасць выкладання матэрыялу можа зрабіць кнігу даступнай абсалютна для кожнага, хто жадае навучыцца на гістарычным прыкладзе, каб сфармуляваць свае погляды на сістэму сталінскага таталітарызму, на беларускія страты ад рэпрэсіяў, на перспектывы будучыні.

---

Юрэвіч, Лявон. **Жыцьцё пад агнём.** (Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі). Менск. Спэцвыпуск часопісу «ARCHE». 1999. 256.

Гэтая кніга чарговы раз падрывае міф пра ўсенародны характар савецкага супраціву гітлераўскім акупантам пад час апошняй вайны. У СССР усіх выхоўвалі на легендах пра піянераў–герояў і Сусаніных XX ст. Аднак у Беларусі было ўсё ж інакш. «Жыцьцё пад агнём» і ёсць поглядам на вайну з іншага, несавецкага боку.

Барыс Рагуля — галоўны герой кнігі і аўтар успамінаў, пакладзеных у яе аснову, пад час нямецкай акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі ў Наваградку, у настаўніцкай сэмінарыі, а напрыканцы 1943 году арганізаваў і ўзначаліў Наваградскі конны эскадрон, які найперш змагаўся з савецкімі партызанамі, а таксама бараніў насельніцтва ад рабаўніцтва з боку як немцаў, так і польскіх партызанаў.

У прадмове да выдання яго рэдактар зазначыў: *«Дык што ўсё ж такі дзеялася на Беларусі падчас другой сусветнай вайны? — на гэтае і іншыя пытаньні чытачы кнігі знойдуць адказы на старонках гэтай кнігі».* Аднак чытачы не знойдуць тут адказу на гэтае пытанне, бо погляд Барыса Рагулі — гэта адзін з мноства поглядаў беларускіх нацыянальных дзеячоў на падзеі вайны, і лічыць яголныя погляды ісцінай было б неразумна. На ісціну могуць прэтэндаваць у сваіх успамінах і Радаслаў Астроўскі, і Леанід Галяк, і Язэп Малецкі, але ўсе яны выказваюць часам зусім процілеглае разуменне падзеяў вайны.

Структурна кніга складаецца з дзвюх частак: «Згадак» і «Дакумэнтаў». «Згадкі» распавядаюць пра жыццёвы шлях героя кнігі ад нараджэння ў 1920 годзе да стварэння Беларускага эскадрону ў 1943 годзе (чатыры часткі: «Сталенне», «Ваеннапалоны», «Свабода», «Нарэшце — вызваленне! Альбо?»). Аўтарам кнігі пазначаны Лявон Юрэвіч, хаця аповед вядзецца ад першай асобы, ад Б.Рагулі. Першая частка, хоць і самая маленькая, ахоплівае найбольшы перыяд жыцця героя — да 1939 г., пачатку II сусветнай вайны. Другая частка — пра нямецкі палон, у якім апынуўся Рагуля ў верасні 1939 г., становішча беларусаў у лагеры для ваеннапалонных. Цікава апісаны прыезд у лагер Часлава Ханяўкі, беларускага палітычнага дзеяча ў Нямеччыне, сябра Беларускага прадстаўніцтва ў Берліне, ды механізм вярбоўкі беларусаў на супрацоўніцтва з немцамі. Вось як Рагуля характарызуе Ханяўку: *«Я вельмі добра ўсьведамляў, што Ханяўка — здраднік, які адкрыта супрацоўнічае зь немцамі, але ў мяне хапіла розуму нічога не сказаць яму ў твар»* (30). Іроніяй лёсу, літаральна праз паўтары гады Рагуля ў гэтых адносінах ужо нічым не адрозніваўся ад Ханяўкі.

Аўтар неаднаразова спрабаваў уцячы з палону. Ён з горыччу піша, што і пры панскай Польшчы, і ў нямецкім палоне з Савецкай дзяржавай звязваліся вялікія надзеі. Камуністычная прапаганда добра працавала, і ў нямецкім лагеры хлопцу мроілася вольнае жыццё ў Заходняй Беларусі, якая ўжо была акупаваная Саветамі. Туды ён нарэшце і ўцёк.

Першыя радкі трэцяй часткі «Свабода?» могуць шакаваць чытача жорсткай праўдай пра «вызваленне» верасня 1939 г. *«На досьвітку мы прыйшлі на падворак, які стаяў у баку ад дарогі. Мы падышлі да хаты, пагрукалі ў дзьверы й чакалі адказу. У дзьвярах зьявіўся спужаны чалавек і спытаўся , хто мы такія. Мы адказалі, што ваеннапалонныя, уцяклі ад немцаў і толькі–толькі апынуліся на радзіме. Мы папрасілі яго расказаць нам пра тое, што чуваць у краіне. Селянін паглядзеў на нас і сказаў: «Ідзьёты! Вяртайцеся да немцаў і прыходзьце разам зь імі, каб вызваліць нас!»* (60).

Вяртанне ў Беларусь стала фатальным для Барыса. З першых дзён у краіне Саветаў ён на сабе адчуў усе выгоды савецкага жыцця. Самыя драматычныя старонкі — гэта расповед пра арышт Рагулі супрацоўнікамі НКВД і пра жудасныя катаванні. Арыштаваць яго было проста: вярнуўся з нямецкага палону — значыць падасланы вораг і шпіён. Яго абвінавачвалі ў шпіянажы на карысць Нямеччыны, прымушалі падпісаць патрэбныя паперы. Прыгаварылі да расстрэлу, але ажыццявіць яго чэкістам перашкодзіў пачатак вайны.

У чацвёртай частцы «Згадкаў» апісваецца жыццё на Навагрудчыне пад нямецкай акупацыяй. Рагуля характарызуе ўсталяванне на Навагрудчыне беларускай адміністрацыі, змаганне з польскімі дзеячамі за «жыццёвую прастору». Беларускія нацыянальныя дзеячы, піша Рагуля, спадзяваліся на тое, што нямецкая ўлада дасць беларусам аўтаномію. *«Немцы былі спыненыя саветамі й прымушаныя контратакаваць. Гэта дало нам надзею, што зь немцамі будзе лягчэй дамовіцца й яны дадуць нам больш свабоды й незалежнасьці, створаць буфэрную дзяржаву зь Беларусі, Украіны і Прыбалтыкі, што дазволіць супрацьстаяць Савецкаму Саюзу. Мы ўсё яшчэ аддавалі перавагу нямецкай акупацыі, а не савецкай. Магчыма, таму, што яшчэ дрэнна ведалі немцаў»* (128).

Аўтар успамінаў характарызуе культурнае, школьнае і грамадскае жыццё Навагрудчыны ў часе нямецкай акупацыі. Роля самога Рагулі на Навагрудчыне не зусім зразумелая. Свой узлёт ён тлумачыць прыхільным стаўленнем да ягонай асобы нямецкіх чыноўнікаў. Падаецца, што ўласная роля ў тагачасных падзеях ім перабольшана. Ён быў звычайным перакладчыкам пры нямецкай адміністрацыі. Прывядзем цытату: *«Я ведаў мясцовых людзей і ведаў, хто чаго варты. Паступова я стаў набіраць усё больш уплыў пры вызначэньні лёсаў тых, каго падазравалі ў сувязях з камуністамі, і ў мяне зьявілася магчымасьць абараняць. Я не рабіў адрозненьняў між людзьмі...»* (131). Чытаючы гэтыя ўспаміны, робіцца ўражанне, што Рагуля быў асноўным абаронцам народу на Навагрудчыне. Чаму ж тады на Навагрудчыне ад рук фашыстаў загінула блізу 45 тыс. жыхароў?

Спыняецца Б. Рагуля і на такіх падзеях часоў вайны, як стварэнне Беларускай Незалежніцкай Партыі, сябрам якой ён стаў, увайшоўшы ў кіраўнічае ядро. Цікава, што ў «Жыцьці пад агнём» Рагуля падае інфармацыю пра тое, што ён быў рэдактарам друкаванага органа партыі «Бюлетэня БНП» — *«адказным за выпуск шмат якіх нумароў быў я»* (145), але Сяргей Ёрш, даследчык БНП, у сваёй кнізе «Вяртаньне БНП», базуючыся на вядомых яму крыніцах, піша, што ў акупаванай Беларусі выйшла два нумары «Бюлетэня», і толькі другі нумар рэдагаваў Барыс Рагуля (Ёрш, Сяргей. «Вяртаньне БНП». Менск—Слонім, 1998, с.126–130).

У «Згадках» трапляецца шмат недакладнасцяў, блытаніны ў датах, перакручвання фактаў. Напрыклад, сцвярджаецца, што доктар Ермачэнка быў высланы ў Прагу гаўляйтэрам Готбэргам пасля смерці Кубэ (151). На самай справе Ермачэнку выдалілі пасля чэрвеня 1943 г. Няпраўда і тое, што Саюз Беларускай Моладзі меў уніформу (154): СБМ не меў грошай, каб забяспечыць сваіх сяброў аднолькавай формай. Інтрыгуе і сказ пра сяброў СБМ, якія *«аддавалі салют рымскім узмахам рукі»* (151). Шкада, што Б. Рагуля абрывае ўспаміны на 1943 г. і чарговы раз унікае размовы пра свой эскадрон.

У «Дакумэнтах» першымі змешчаны ўспаміны «Наваградзкі эскадрон» пад псеўданімам Рагулявец. Яны напісаны, мяркуючы па дасьведчанасці аўтара, ці чалавекам вельмі набліжаным да самога Рагулі, ці ім самім. Хоць тэкст прэтэндуе на статус крыніцы, гэта хутчэй літаратурны твор. «Наваградзкі эскадрон» падзяляецца

на дзве часткі: «Эскадрон фармуецца» і «Эскадрон у акцыі». У першай распавядаецца пра стварэнне коннага эскадрона ў 1943 г., і аўтар падае тут шмат цікавага матэрыялу пра механізм узнікнення фармавання, пра палітычнае жыццё Наваградчыны, пра тое, як «рагуляўцы» канфліктавалі з немцамі і гэта заўсёды сыходзіла ім з рук (177—178). У другой частцы асьвятляецца ваенная дзейнасць эскадрона ў 1944 г., пераможнае (!) змаганне як з савецкімі, так і з польскімі партызанамі. Пішацца, што ў баі з партызанамі каля Карэлічаў (220—230) партызаны страцілі каля 65 забітымі і столькі ж параненымі, рагулеўцы ж — тры лёгка параненых і пяць патрапілі ў палон. Калі б з партызанамі можна было так лёгка распраўляцца, то немцы сваімі сіламі знішчылі б іх яшчэ ў 1941—1942 г. Такое ўражанне, што "Наваградзкі эскадрон" напісаны па тым прынцыпе, што і творы афіцыйнай савецкай літаратуры.

У наступным раздзеле «Дакумэнтаў» змешчаны артыкул Язэпа Сажыча «Мілітарызацыя Нямеччыны ў часе нямецкай акупацыі 1941-1944». Аўтар, будучы Прэзыдэнт Рады БНР, пад час вайны быў камандзірам падафіцэрскай школы Беларускай Самаахвы ў Наваградку, а потым узначаліў чыгуначны батальён у Лідзе. Ён характарызуе дзейнасць вайсковых фармаванняў на Наваградчыне, змену нямецкіх адносінаў да праблемаў беларускага войска, вайсковую эміграцыю з Беларусі на Захад. Успаміны Сажыча не выклікаюць такіх нараканняў, як успаміны Рагулеўца. Аднак звернемся да характарыстыкі Другога Усебеларускага Кангрэсу. *«У часе Другога Усебеларускага Кангрэсу мне даручана была зь іншымі нашымі афіцэрамі ахова гэтага кангрэсу — у выпадку нападу партызанаў або Немцаў, якім магло не спадабацца завялікае вымаганне незалежнасьці» (246).* Гэта няпраўда, што немцы маглі выступіць супраць удзельнікаў Кангрэсу. Кангрэсмены маглі прымаць якія заўгодна пастановы, нават пра далучэнне Беларусі да Злучаных Штатаў: немцам было ўсё роўна, бо ўжо пачалася аперацыя „Багратыён" і яны, усведамляючы, што прайгралі, сталі адступаць. Так што казаць пра незвычайную смеласць беларусаў на Кангрэсе не выпадае. Варта прыгадаць, што на першым патрабаванні немцаў была пасланая прывітальная тэлеграма Гітлеру, прычым без аніякага супраціву з боку беларускіх палітычных дзеячаў.

Выдаўцы кнігі сцвярджаюць, што прыведзеныя ў канцы выдання Песні Штурмовага Звязу (251—255) друкуюцца ўпершыню. Ня ведаю, як «Родная краіна» і «Новыя часы», а вось «Чутны гоман — там войска спявае» друкавалася ў гарадзенскай газеце «Пагоня» ў сакавіку 1995 г.

«Жыццё пад агнём», як і іншыя эміграцкія выданні, стракацяць штампамі: вораг беларускага народу, прыяцель беларускага народу, польскія дзяўчаты лёгкіх паводзінаў, якія, спакушаючы немцаў, працуюць на АК. Разам з тым, гэтая кніга, — дакладней яе першая частка, — лепшае з мэмуарыстыкі, напісанай на эміграцыі. Магчыма таму, што апрацоўваў матэрыялы Лявон Юрэвіч. Што да выгляду кнігі, то ён мог быць лепшым: няўдалы макет, дрэнная якасць фотаздымкаў, кепска вычытаны тэкст.

*Алег Гардзіенка*

"Беларускі Гістарычны Агляд"

# Эўрапейская Куба

Тыдзень пачаўся з выступлення будучага пасла Амэрыкі ў Беларусі Майкла Козака ў Сэнаце, якое зьвярнула на сябе ўвагу тым, што ён працытаваў словы зь леташняга сэнацкага дакладу пра Беларусь, у якім нашу краіну называюць «эўрапейскай Кубай». Ён таксама сказаў: «Палітыка, апрэцыі і праблемы бясьпекі, зь якімі мы сутыкаліся на Кубе, вельмі падобныя да тых, якія мае пасольства ў Менску». І таксама: «Беларусь — краіна, што перажывае сур'ёзны канстытуцыйны й палітычны крызыс, выкліканы неканстытуцыйнымі спробамі... Прэзыдэнта падоўжыць час свайго знаходжаньня на пасадзе і падпарадкаваць выканаўчай уладзе ўсе значныя дзяржаўныя інстытуцыі». Майкл Козак выказаў разуменьне таго, што «гэты крызыс, калі не зьвяртаць на яго ўвагі, можа істотна закрануць інтарэсы суседзяў Беларусі. А падтрымка Беларусяй варожых Амэрыцы рэжымаў можа закрануць інтарэсы самой Амэрыкі». Ён зьвярнуў увагу на тое, што рыторыка Лукашэнкі й Кастра вельмі падобная. У той жа час ён падкрэсьліў, што ЗША не зьбіраюцца падтрымліваць адну ці другую палітычную сілу краіны. Гэты выступ Козака выклікаў рэзкую рэакцыю МЗС РБ, якое назвала ацэнкі, што прагучалі, «пасьпешлівымі».

Прызначэньне ў Беларусь спэцыяліста па Кубе й Гаіты сьведчыць пра тое, што з Лукашэнкам не зьбіраюцца «цацкацца».

Беларуская апазыцыя дэманстравала на гэтым тыдні сваю еднасьць: вырашылі правесьці 2 ліпеня, напярэдадні чарговага візыту тройкі АБСЭ, чарговы Кангрэс дэмакратычных сілаў, на якім вырашыць — ісьці ці ня йсьці на выбары. Вызначылася і тое, хто складае ядро апазыцыі — гэта Народны Фронт, АГП, сацыял-дэмакраты «Народнай Грамады» і «Хартыя-97». Усе астатнія працягваюць куляцца ў пошуках гаспадара, які б іх прытуліў, або надта мала значаць. Гэтыя найбольш уплывовыя партыі апазыцыі выказалі таксама сваё стаўленьне да меркаванага Ўсебеларускага Зьезду і прыняцьця Акту незалежнасьці. Няма чаго пароць гарачкі, нерэальна арганізаваць прадстаўнічы зьезд ужо ўлетку, кажуць яны, лепей адкласьці яго на восень, каб гэта быў не чарговы сход пары соцень актывістаў, а сапраўды Ўсебеларускі Сход, роўны па сваім значэньні Першаму і Другому. Але, нягледзячы на тое, што такую пазыцыю занялі і Івонка Сурвілла, і Сямён Шарэцкі, і Вінцук Вячорка, усё ж А.Старыкевіч і Г.Бураўкін, два галоўныя завадатары Зьезду, упарта стаяць на сваім і нікога пакуль ня слухаюць. Сойм БНФ у суботу ўрэшце прапанаваў ім кампраміснае рашэньне — правесьці 29 ліпеня не Ўсебеларускі зьезд, каб не фальшаваць і не зашмольваць гэткую гістарычную назву, а проста Зьезд за незалежнасьць.

М.Статкевіч і В.Шчукін выступілі з палымянымі прамовамі ў абарону сябе, сваёй дзейнасьці і восеньскага Маршу Свабоды на крымінальным судзе над імі — прамовы гэтыя вартыя таго, каб увайсьці ў залаты фонд беларускай публіцыстыкі. «Свабода або сьмерць», — альтэрнатывы няма, заявіў М.Статкевіч. Прысуд маюць вынесьці на наступным тыдні.

Уладзімер Ярмошын праславіўся фразай «хохлы всё равно будут обдирать», гаворачы аб працы ўкраінскай мытні — раней усё Лукашэнка самаручна арганізоўваў давоз гнілога малдаўскага вінаграду, цяпер гэты ўзяўся. Цікава, ці дадуць яму папярэджаньне за распальваньне міжнацыянальнай варожасьці? У кожным разе, слова не верабей — Ярмошын істотна падмачыў міт пра ўласную інтэлігентнасьць. Адна з «прадсядацелем» кампанія.

Пакуль Ярмошын лаяў маларосаў, Кучма заявіў, што да 15 сьнежня закрые-такі Чарнобыльскую АЭС, а баўгары абвесьцілі, што на лета зьмяншаюць цану візы на ўезд, каб болей турыстаў завабіць.

Дарэчы, за мяжу бяз банкаўскага дазволу хутка можна будзе вывозіць 1,5 тысячы даляраў, а не 500, як цяпер — да новых правілаў абавязвае Мытны саюз. А вось суму гарантаванага дзяржавай валютнага ўнёску ў банк (то бок таго, які дзяржава абяцаецца кампэнсаваць у разе, калі банк збанкрутуе) зьменшылі з 2000 да 1000.

У чацьвер на плошчы Перамогі ў Менску забілі вядомага ўзбэка-прадпрымальніка Аджы-Асманава. Радыё Свабода кажа, быццам бы прычына — у перадзеле правоў на імпарт у Беларусь збожжа, што моцна вырасла ў цане апошнім часам.

70 тыс. жыхароў Менску пераводзяць з Фрунзэнскага ў Цэнтральны раён — памяняюць райвыканкам тыя, хто жыве ў раёне Машэрава-Кальварыйскай. Бо Цэнтральны раён — найменшы, а Фрунзэнскі з пабудовай Захаду, Масюкоўшчыны і Краснага Бору надта разросься.

У суботняй «Народнай волі» надрукаванае інтэрвію зь Віньнікавай, якая ізноў нічога ня кажа. «ЛіМ» у чацьвер ня выйшаў — няма грошай на рахунку, і дзяржава нічым ня можа дапамагчы. Гэтаксама завісьлі і іншыя дзяржаўныя датацыйныя выданьні. То проста заробку не плацілі, а то ўжо й на друк зажмындзілі.

Тымчасам у Магілёве адбыўся першы сёлета сполах дызэнтэрыі — захварэла больш за 300 чалавек. Трэба рукі мыць!

**Б.Т. "Наша Ніва"**

# У Беларускім Хэльсынскім камітэце насьпеў крызыс.

**Галіна Жарко**

Трэба зазначыць, што вынікам крытыкі спадара Шэрмана сталася рашэньне старшыні Тацяны Працкі скласьці зь сябе паўнамоцтвы кіраўніка БХК. Пра што яна й заявіла на сходзе. Падчас свайго выступлення Карлас Шэрман абвінаваціў кіраўніка БХК у "флірце з уладаю", што, на яго думку, праявілася ў ейным удзеле ў працы ініцыятыўнай групы па арганізацыі і правядзеньні грамадзка-палітычнага дыялёгу, а таксама ў адстойваньні ідэі ўдзелу сяброў БХК у парлямэнцкіх выбарах ня толькі ў якасьці назіральнікаў, але і ў складзе выбарчых камісій. У сувязі з гэтым заявілі аб прыпыненьні свайго сяброўства ў кіроўчых органах БХК Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Юры Хадыка, Аляксандар Патупа, Анатоль Грыцкевіч, Лявон Баршчэўскі, Уладзімер Арлоў, Жана Літвіна, Уладзімер Халіп, Юры Хашчавацкі, Валянцін Тарас і сам Карлас Шэрман. Мы папрасілі спадара Шэрмана патлумачыць сытуацыю, якая склалася ў адной з аўтарытэтных грамадзкіх арганізацыяў.

К.Ш.: -- Пачаліся разыходжаньні ў сувязі з тым, што арганізацыя выйшла зь межаў дэмакратычнасьці ўнутры структуры, што Сойм увогуле не зьбіраўся, а Сойм павінны вызначаць стратэгію й тактыку дзейнасьці БХК. Фактычна Сойм стаў нейкім апэндыксам пры Радзе, а сама Рада стала выканаўчым органам. І ўвогуле гэта дужа падобна да мадэлі дзяржавы, якую мы маем сёньня. На вэртыкаль дзяржавы. Шэраг вядомых людзей выказаліся за адстаўку спадарыні Працкі. Пасьля чаго трэба будзе займацца падрыхтоўкай новага тэксту статуту.

КАР.: -- Такім чынам, БХК перажывае сёньня крызыс?

К.Ш.: -- Можна сказаць, што гэта крызыс, але гэта крызыс у вярхах, таму што людзі працуюць. Праваабаронцы абараняюць людзей у судах, юрыдычная служба БХК моцная, прыёмная прымае шмат заяваў. Праца ідзе, а прынцыповыя пытаньні, якія пастаўленыя, яны павінны вырашацца самім БХК. Мы не былі прыхільнікамі таго, каб абмяркоўваць гэта шырока, мы не хацелі, каб гэта выйшла за межы БХК, але, на жаль, не пайшлі нам насустрач.

Сябра Назіральнага сойму Карлас Шэрман патлумачыў сытуацыю, якая адбылася на сумесным сходзе Рады, Назіральнага сойму і кіраўнікоў рэгіянальных аддзяленьняў Беларускага Хельсынскага камітэту, дзе ён выступіў з рэзкай крытыкай старшыні Тацяны Працкі. Дарэчы, сам спадар Шэрман быў супраць таго, каб увогуле гэты сход зьбіраўся. 16 верасьня адбудзецца агульны сход прадстаўнікоў БХК, на якім будуць разгледжаныя пытаньні зьмены кіраўніцтва гэтай арганізацыі, унесеныя папраўкі ў стратэгію й тактыку дзеяньняў, а таксама вырашаныя насьпелыя пытаньні структурнай перабудовы арганізацыі.

Радыё "Рацыя"



КУРС ДОЛАРА



# Нацыянальная ідэя і нацыянальныя сімвалы

**Юры ХАДЫКА**

Нацыянальная ідэя, безумоўна, складанае паняцце. Яно можа быць разгорнута — стаць тэмаю гістарычных, культуралагічных, палітычных, педагагічных ці філасофскіх трактатаў. Але можа быць і згорнутым. Зведзеным да лаканічных сімвалаў. Нацыя, стварыўшы дзяржаву, засвойвае дзяржаўныя сімвалы і пераўтварае іх у сімвалы нацыянальныя, якія і суправаджаюць у далейшым усю гісторыю нацыі. Ускосна сведчачы аб самім факце існавання нацыі і выяўляючы яе нацыянальную ідэю.

Усе гэтыя тэзы лёгка падмацаваць безліччу гістарычных прыкладаў. Некаторыя з іх выключна цікавыя. Магчыма, не ўсе задумваліся, чаму Гітлер назваў створаную ім дзяржаву Трэцім Рымам? Гэта значыць, трэцяй імперыяй. І чаму гербам гэтай імперыі стаў чорны арол? Гітлер быў абраны прэзідэнтам дэмакратычнай рэспублікі. Аднак серыяй рэферэндумаў рэспубліку знішчыў. Сканцэнтраваў усю ўладу ў сваіх руках. А захапіўшы сілай землі, якія былі страчаныя Германіяй у выніку І сусветнай вайны, аднавіў Германскую імперыю, створаную Бісмаркам у 70-я гады 19 стагоддзя. Гэтая, другая на падліках Гітлера, імперыя была практычна монанацыянальнай дзяржаваю. І, быццам, імперыяй называцца не мела права. Але ж яна была ўтвораная ў выніку захопу Прусіяй цэлага шэрагу незалежных нямецкіх дзяржаваў. Памяць аб іх колішнім існаванні да сённяшняга дня захоўваецца ў федэратыўнай пабудове ФРГ. Першай жа імперыяй — крыніцаю нямецкай вялікадзяржаўнай традыцыі — была свяшчэнная Рымская імперыя германскага народа, якую стварыў Атон І яшчэ ў 10-ым стагоддзі. І якая існавала да 1806 г., калі была ліквідаваная Напалеонам Банапартам, пасля бітвы пад Аўстэрліцам («бітвы трох імператараў»).

Слова «Рымская» ў назве імперыі Атона І паказвае на крыніцу гітлераўскай сімволікі. Узорам для ўсіх гербаў з выявою арла з'яўляецца сімволіка Старажытнага Рыма. Белы арол і чырвоны сцяг былі ягонымі сімваламі. Белы рымскі арол пераўтвараўся ў чорнага двухгаловага мутанта на сцягах Візантыі — Усходняй Рымскай імперыі, чые ўладанні прасціраліся на двух кантынентах, а сталіца раскінулася на берагах Басфора, які гэтыя кантыненты падзяляў. Пасля гібелі Візантыі ў 1453 г. на яе імперскую спадчыну выявіліся ажно тры прэтэндэнты.

Першым, і найбольш натуральным, стала Атаманская імперыя. Туркі, якія захапілі Канстанцінопаль, не спынялі сваёй агрэсіі, пакуль не заваладалі ўсімі землямі, якія калісьці належалі Візантыі. Але як мусульмане яны адмовіліся ад сімволікі хрысціянскай імперыі.

Тады і з'явіўся чорны двухгаловы арол на штандарах Свяшчэннай Рымскай імперыі германскага народа, сэрцам якой у XV стагоддзі была Аўстрыя. І калі Бісмарк, які разбіў Аўстрыю, зрабіў аб'яднаную Германію спадчыннікам яе імперскіх амбіцыяў, чорны (але аднагаловы!) арол стаў гербам Германскай імперыі. Так акольным шляхам чорны арол, згубіўшы адну галаву, даляцеў да гітлераўскага Рэйха. І не згубіць яе ён не мог, таму што існаваў трэці, апошні, прэтэндэнт на імперскую веліч Візантыі, які ўжо завалодаў двухгаловым мутантам.

Яго зрабіў дзяржаўным сімвалам Пётр І, які ў 1721 г. дамогся прызнання Расійскага царства імперыяй. Пры гэтым ён адмовіўся ад Георгія-пераможцы, што быў раней гербам Вялікага княства Маскоўскага. Арол як сімвал Расіі адрадзіўся пасля 80 гадоў камуністычнага бяспамяцтва, хоць і стаў залатым.

Аднак і белы рымскі арол выжыў. Выжыў у якасці герба Польскага каралеўства, а потым і польскага нацыянальнага сімвала. Што і паказвае на глыбінныя гісторыка-культурныя сувязі польскай дзяржаўнасці са старажытна-рымскай традыцыяй. Аднак і гэтыя прыклады не вычэрпваюць усе выпадкі выкарыстання арла ў якасці нацыянальнага сімвала. Так, шэры арол з'яўляецца гербам ЗША. А зусім нядаўна адрадзіўся і чорны двухгаловы арол.

Беларуская нацыянальная сімволіка ў параўнанні з «арлінай» куды больш арыгінальная. Добра вядома, што «рыцар на кані з мячом» стаў гербам Вялікага Княства Літоўскага і Рускага ў 1258 г. Як паўстаў гэты сімвал? Хто і чаму даў яму назоў «Пагоня»? Верагодна, мы ніколі не даведаемся дакладных адказаў на гэтыя пытанні. Кампазіцыйна ён блізкі да кананічнай выявы св.Дзмітрыя.

Таму паходжанне нашага бел-чырвона-белага сцяга выглядае значна больш празрыстым. Ягонай першакрыніцай з'яўляецца штандар Хрыста. Той, хто хаця б раз уважліва разглядаў абраз «Уваскрашэнне Хрыстова», не мог не заўважыць, што ўваскрослы Хрыстос трымае ў руцэ белы сцяжок з чырвоным крыжам. Гэты сцяжок стаў сімвалам хрысціянства. Сімвалам асабліва папулярным на ўскрайках хрысціянскага свету. Так, напрыклад, англійскі нацыянальны сцяг — белае палотнішча з чырвоным крыжам. Не дзіва, што і нашыя продкі, якія ад пачатку XII да канца XVIII ст. знаходзіліся ў бесперапынным збройным кантакце з мусульманскімі краінамі, усведамлялі сябе фарпостам хрысціянства. Таму і стаў сцяжок Хрыста адзнакаю хрысціянскага воіна.

Але дзяржаўны трохпалосы сцяг даў бел-чырвона-белую камбінацыю. Падобна на тое, як і на святарскім адзенні сімвал уваскрашэння Хрыста пераўтвараўся ў бел-чырвона-белую стужку. Пры ўтварэнні канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай у 1569 г. у якасці сцяга новай дзяржавы была зацверджаная простая камбінацыя сцягоў Кароны і Вялікага Княства, што дало чатыры паласы. Дзве белыя і дзве чырвоныя. Аднак ні чырвона-белы польскі, ні бел-чырвона-белы беларускі сцягі не перасталі існаваць.

Беларускія нацыянальныя сімвалы адрадзіліся пры абвяшчэнні БНР і з таго часу суправаджаюць беларускае нацыянальнае адраджэнне. Глыбока фальшывымі і абразлівымі для нацыянальнай годнасці выглядаюць спробы «манкуртаў» зняславіць гэтыя старажытныя сімвалы — набыткі шматвяковай беларускай гісторыі і культуры.

Сама гісторыя дала беларусам сапраўды святыя сімвалы — «Пагоню» і бел-чырвона-белы сцяг. Яны і ёсць канцэнтраванай і лаканічнай выявою нашай нацыянальнай ідэі. Выразна і наглядна адрознай ад «ідэяў» суседніх нацыяў. Нельга ж сур'ёзна прымаць папрок, што і на літоўскім гербе конны воін. Літоўцы мелі з намі агульную дзяржаўнасць. Прыхільнікам абсалютнай унікальнасці дзяржаўнай сімволікі трэба нагадаць, калі прыведзеных вышэй прыкладаў недастаткова, што Англія і Масква маюць абсалютна аднолькавы герб — св.Георгія, які паражае цмока.

Наш бел-чырвона-белы сцяг абсалютна унікальны. Ні адна дзяржава ў свеце такога не мае. Таму сорамам і фарсам быў першы рэферэндум, арганізаваны А.Лукашэнкам, які праводзіўся на тле «Дзяцей ілжы». Мана бумерангам вернецца да аўтара «рушніка на фоне закату над дрыгвою». Крыху мадэрнізаваная недарэчная сталінская сімволіка — абраза беларусам. І відавочнае злачынства з боку тых, хто галасаваў за яе вяртанне. Вольна ці міжвольна, у моц духоўнай лянотнасці, яны падтрымалі палітыку «манкуртызацыі».

Гэткага ж масавага абмеркавання заслугоўвае і пытанне пра гімн. Гэтую праблему ўзняў Вярхоўны Савет 12-га склікання, але так і не вырашыў яе. Сённяшні прэзідэнт проста вярнуў гімн непаўнавартаснай, паднявольнай краіны, якой была БССР. Чым у чарговы раз абразіў нацыянальныя пачуцці беларусаў. Што, дарэчы, зусім не дзіўна, бо ўся ідэалогія сённяшняй улады антынацыянальная.

Лаканізм і выключна эстэтычная чысціня нашых галоўных нацыянальных сімвалаў паўстаюць супраць палітыкі варварызацыі беларускай культуры, супраць гістарычнага беспамяцтва.

**ХТО КІРУЕ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ ?**

| | | |
|---|---|---|
| Прэм'ер-міністр | Ярмошын Ул.В. | расеец |
| Першы намеснік Прэм'ер-міністра | Кабякоў А.Ул. | расеец |
| Намеснік Прэм'ер-міністра | Замяталін Ул.П. | расеец |
| Намеснік Прэм'ер-міністра | Кокараў В.І. | расеец |
| Намеснік Прэм'ер-міністра - Міністр замежных справаў | Латыпаў Урал Рамдракавіч | расеец |
| Намеснік Міністра замежных справаў | Мартынаў С.М. | расеец |
| Намеснік Міністра замежных справаў | Пятроў А.Ул | расеец |
| Намеснік Міністра замежных справаў | Дабрамудраў А.А. | расеец |
| Міністр архітэктуры і будаўніцтва | Курачкін Г.Ф. | расеец |
| Намесніца Міністра архітэктуры і будаўніцтва | Голубева Т.Г. | расейка |
| Намеснік Міністра архітэктуры і будаўніцтва | Нічкасаў А.І. | расеец |
| Намеснік Міністра архітэктуры і будаўніцтва | Філіпаў С.Я. | расеец |
| Выконваючы абавязкі міністра унутраных справаў | Удовікаў М.Д. | расеец |
| Намеснік міністра унутраных справаў | Жадобін Ю.В. | расеец |
| Намеснік міністра унутраных справаў | Чванкін А.А. | расеец |
| Міністр лясной гаспадаркі | Зорын В.П. | расеец |
| Міністр абароны | Чумакоў А.П. | расеец |
| Намеснік міністра абароны | Казлоў М.Ф. | расеец |
| Намеснік міністра абароны | Хрыстафораў А.С. | расеец |
| Міністр адукацыі | Стражаў В.І. | расеец |
| Намеснік міністра адукацыі | Хрусталёў Б.М. | расеец |
| Намеснік міністра адукацыі | Іваноў Б.В. | расеец |
| Намеснік міністра адукацыі | Купцоў А.І. | расеец |
| Міністр па надзвычайных сітуацыях | Астапаў В.П. | расеец |
| Намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях | Барыеў Энвер Рызаевіч | расеец |
| Намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях | Бікінін Б.С. | расеец |
| Намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях | Калбаскін А.М. | расеец |
| Міністр транспарту і камунікацыяў | Лукашоў А.В. | расеец |
| Міністр эканомікі | Шымаў У.М. | расеец |
| Намеснік міністра эканомікі | Енін Ю.І. | расеец |
| Намеснік міністра эканомікі | Найдуноў Ул.А. | расеец |
| Намеснік міністра эканомікі | Ткачоў С.П. | расеец |
| Міністр юстыцыі | Варанцоў Г.М. | расеец |
| Намеснік міністра юстыцыі | Галаванаў В.Р. | расеец |
| Намесніца міністра юстыцыі | Сяргеева В.Г. | расейка |



# У МАЛАДЭЧНЕ ЗЬЯВІЦЦА ПОМНІК АГІНСКАМУ

Каля музычнае школы імя Агінскага плянуюць паставіць помнік славутаму земляку-кампазытару. Існуе пастанова Менскага аблвыканкома зрабіць гэта менавіта ў 2000 годзе. Агульны кошт праекту — каля сарака тысяч даляраў.

– Большую частку грошай павінны "ахвяраваць" з гарадскога і абласнога бюджэтаў, – лічыць дырэктар музычнага вучылішча Рыгор Сарока. – Таксама, спадзяюся, дапамогуць спонсары і Міністэрства культуры. Яго чыноўнікі не могуць проста прыехаць на адкрыццё помніка і сказаць прамову. Яны павінны ўзяць матэрыяльны ўдзел у гэтай справе.

Помнік Агінскаму ўжо гатовы. Сталічны скульптар Валяр'ян Янушкевіч работу над ім пачаў яшчэ чатыры гады таму. Ён упэўнены, што ў Маладзечне абавязкова павінен быць помнік славутаму кампазітару:

– А дзе яму яшчэ стаяць? Міхал Клеафас Агінскі пахаваны разам з Расіні і Дантэ. А ў Маладзечне, для якога ён столькі зрабіў, да гэтага часу нават не ўшанавалі яго памяць.

– Упершыню ў горадзе з'явіцца помнік з такога шыкоўнага матэрыялу – паліраванай бронзы, – гаворыць архітэктар Аляксей Утулкін. – Макет давялося некалькі разоў дапрацоўваць, але цяпер помнік Агінскаму ўжо прыняты манументальным саветам. Маладзечанцы яго ўбачаць, калі з'явяцца грошы на канчатковую рэалізацыю праекта.

# ІНТЭРВІЮ З ВІНЦУКОМ ВЯЧОРКАМ

**- Спадар Вячорка, распавядзіце, калі ласка, аб сваім візыце, які папярэднічаў прагучаўшаму візыту ў ЗША.**

- Гэта быў візыт па запрашэньню міністэрства замежных спраў Велікабрытаніі. Ён прадугледжваў наведваньне парлямэнту Вялікабрытаніі, абодвух палатаў, і абодвух асноўных фракцыяў. Адбыліся сустрэчы і ў самім міністэрстве замежных справаў з чыноўнікамі, якія займаюцца Беларусьсю. Таксама цэлы шэраг спатканьняў з прэсай, вядучымі газэтамі, сустрэчы ў аналітычных цэнтрах. Асабіста я вельмі ўсьцешаны размовамі з парлямэнтарамі. Як кансэрватары (сп. Гілл), так і лейбарысты (сп. Маккінлі) выказалі самае шчырае зацікаўленьне сытуацыяй на Беларусі, як бы пераадолеўшы нашае ўражаньне пра Велікабрытанію, як пра выспу, якой вельмі далёка да Беларусі і яе праблемаў, як і да ўсіх кантынентальных эўрапейскіх праблемаў. Мы знайшлі безумоўную згоду ў тым, што ў Беларусі павінны быць сапраўды дэмакратычныя выбары ў парлямэнт, што чатыры варункі АБСЭ мусяць быць выкананыя беларускім рэжымам і што Беларусь павінна заставацца паўнацэннай эўрапейскай дзяржавай і павінна мець вэктар палітычнай самаідэнтыфікацыі такі самы як маюць суседнія Літва ды Польшча.

**- Пасьля быў візыт у ЗША, які выклікаў вялікі рэзананс у Беларусі. З чым ён на вашую думку быў зьвязаны, і як надалей плянуецца разьвіваць посьпех?**

- Рэзананс быў зьвязаны с тым, што гэта сапраўды быў посьпех. Посьпех ня столькі ў тым, што мы сустрэліся з надзвычай высокапастаўленымі і аўтарытэтнымі людзьмі, якія вызначаюць палітыку ЗША. Посьпех быў у тым, што мы дамагліся вельмі практычных канкрэтных рэчаў. Мы пачулі, што ЗША памятаюць пра гарантыі беларускага сувэрэнітэту дадзеныя ў 1994 годзе ў Будапэшце, мы ўбачылі жаданьне сэнатараў уключыць беларускае пытаньне ў парадак дня размоваў з Масквой (як мы ведаем, гэта адбылося). Мы пачулі поўную згоду з нашымі чатырма варункамі, без якіх выбары ня будуць лічыцца дэмакратычнымі. Усё гэта быў посьпех, і адсюль гістэрыка рэжыму.

Лукашэнка быў перакананы, што вось-вось ягоны "дыялёг" будзе прызнаны АБСЭ як спосаб выйсьця з палітычнага крызісу. Аж тут раптам на найвышэйшым узроўні, на узроўні міжнародных камісыяў абедзьвюх палатаў амэрыканскага парлямэнту сьцьвярджаецца зусім адваротнае. А вага Злучаных Штатаў – гэта вага Злучаных Штатаў. Для Лукашэнкі стала абсалютна ясна, што ён праваліўся. Вось адкуль нэрвовасьць, неўраўнаважанасьць і пагрозы.

**- Пасьля заканчэньня агульнага візыту ў ЗША, вы засталіся там яшчэ на пэўны час. Для чаго?**

- Я акрамя Вашынгтону наведаў буйныя беларускія асяродкі ў Клііўлендзе і ў Нью-Ёрку. Я сустракаўся з беларускім актывам, у першую чаргу Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня (БАЗ), сустракаўся з аўтарытэтнымі ў радзе БНР людзьмі: Івонкай Сурвілай, Янкам Запруднікам, Вітаўтам Кіпелем, з кіраўнікамі аўтакефальных беларускіх царкваў. Такім чынам я даносіў інфармацыю пра найноўшыя падзеі ў Беларусі да прадстаўнікоў эміграцыі.

**— Спадар Вінцук, што вы скажаце аб супадзеньні па часе двух такіх буйных мэрапрыемстваў — Усебеларускага зьезду і Кангрэсу дэмакратычных сілаў?**

— Адразу скажу, што гэта абсалютна рознафарматныя і рознафункцыянальныя справы. КДС – гэта празрыстыя мэты. КДС – гэта калі буйнейшыя партыі, рухі і прафсаюзы вылучаюць сваіх прадстаўнікоў і вырашаюць нейкія канкрэтныя справы. Сёлета на Кангрэсе нам трэба вызначыць агульную пазыцыю, агульнае стаўленьне да восеньскіх выбараў. Адно-адзінае пытаньне парадку дня. Стаўленьне беларускай дыяспары да гэтага спакойнае. Ну, функцыянальнае мэрапрыемства, значыць трэба гэта рабіць.

Усебеларускі зьезд – справа, вядома, іншая, значна больш важкая, глябальная. На першым Усебеларускім зьездзе было 1.800 дэлегатаў, якія рэальна прадстаўлялі тэрыторыі, самакіраваньні. Яны былі рэальным прадстаўніцтвам беларускага народу. І ў гэтым сэнсе на ўсіх, хто бярэцца за ладжаньне Усебеларускага зьезду, ляжыць вельмі вялікая адказнасць, каб зьезд быў максымальна прадстаўнічым. Калі мы, не дай Бог, дэвальвуем само паняцьце Усебеларускага зьезду, хто ведае, як распарадзіцца намі гісторыя, і ці не спатрэбіцца нам праз два гады склікаць у цяжэйшых варунках нешта падобнае. Тым больш ёсць яскравы досьвед дыскрэдытацыі некаторых масавых кампаніяў, што ў нас апошнім часам у Беларусі ладзіліся.

Вось чаму БНФ, ды, здаецца, і іншыя дэмакратычныя партыі Беларусі, абсалютна падтрымаўшы ініцыятыву журналістаў і іншай творчай інтэлігенцыі аб правядзеньні Усебеларускага зьезду і ў той жа час маючы вялізны досвед у арганізацыі розных агульнанацыянальных кампаніяў, зыходзяць з наступнага. Патрэбна рэальнае прадстаўніцтва тэрыторыяў. Для таго, каб яно было рэальным, трэба данесьці літаральна да кожнага чалавека інфармацыю пра зьезд. Вельмі добра, што ўжо створаны праект Акту незалежнасьці. Гэта выдатны дакумэнт, але яго трэба данесьці літаральна ў кожную хату, каб людзі ведалі, куды й навошта яны вылучаюць прадстаўнікоў. Патрэбна распаўсюдзіць мільёны улётак, выехаць ва ўсе раёны. Трэба правесьці максымальна паўнавартасныя сходы ці мітынгі. Гэта ўжо залежыць ад мясцовых умоваў. Усё вышэйпералічанае адбірае шмат людскіх, часавых, тэхнічных і іншых рэсурсаў.

Акрамя таго, вельмі каштоўна было б, каб у нас быў інструмент адказу на магчымы выбарчы фарс уладаў. То, відаць, атрымалася б найбольш дзейсна, каб Усебеларускі зьезд быў прымеркаваны на восень, якраз на той час, калі Лукашэнка і тыя, хто стаіць за ім у Маскве, паспрабуюць рэалізоўваць свае сцэнары легітымізацыі хаця б якога-небудзь органу тут, у Беларусі, каб ад ягонага імя штампаваць пасля інтэграцыйныя ідэі. Вось тут і спатрэбіцца Усебеларускі з'езд.

Я вельмі спадзяюся, што тая дыскусія, якая разгарнулася зараз вакол Усебеларускага зьезду, вакол даты ягонага правядзеньня, нейкая дэструктыўная. Я веру, што тут усё здаровы сэнс пераможа і будзе дасягнутая згода, будзе вызначаны тэрмін, які дазволіць не адкладаць гэтую ініцыятыву бясконца, але і не ператворыць яе ў шараговы сход інтэлектуалаў. Што ж датычыцца амбіцыяў, то беларускае палітычнае поле не такое занятае, каб нечыя амбіцыі засталіся нерэалізаванымі. Месца тут павінна хапіць усім, хто мае нейкія арганізатарскія здольнасьці, падмацаваныя публіцыстычным талентам і палітычнай хваткай.

**- 19-га чэрвеня ў Менск зноў прыязджае парлямэнцкая "тройка" АБСЭ. Чаго чакаць ад гэтага візыту?**

- Хацелася б верыць, што пазыцыя эўрапейскіх структураў ня толькі не зьмянілася, але наадварот сфармулявалася выразней. Апошні прыезд эўратройкі быў вельмі канструктыўны, рэжым Лукашэнкі пачуў дастаткова дакладную пазыцыю, сэнс якой у тым, што рэжым павінен выканаць чатэры нашыя мінімальныя патрабаваньні і ад якіх эўраатлянтычная супольнасьць не зьбіраецца адступаць, калі Лукашэнка хоча, каб выбары былі прызнаныя.

**- Тады выкажыце, калі ласка, стаўленьне да сытуацыі з выбарамі на цяперашні момант.**

- Нічога ў пазыцыі БНФ не зьмянілася, чатэры варункі не выконваюцца. Паказушныя спробы паказаць свабоду мас-медыа мы лёгка раскусваем. Мы добра памятаем камуністычныя часы, і таму добра разумеем, што калі Шушкевіча пускаюць у жывы эфір на паўтары хвіліны, але праз сорак секунд яны выключаюць гэты жывы эфір – гэта найлепшы доказ усёй фіктыўнасьці так званых саступак. Ды і ў іншых галінах таксама саступак няма. Сядзяць Кудзінаў з Клімавым, адтэрмінаваны прысуд Міхаілу Чыгіру, пад судом знаходзяцца Шчукін і Статкевіч, пад пагрозай закрыцьця асноўныя незалежныя газэты. Зьмены ў выбарчае заканадаўства не больш чым дэкляруюцца. Ніякіх дэмакратычных выбараў, як на гэты дзень.

**- У гэтым ракурсе тады пытаньне: чым жа вы плянуеце заняцца ўвосені?**

- Мы павінны замацоўваць той палітычнапсыхалягічны посьпех, які быў дасягнуты цягам вясны і ў Менску і ў іншых буйных гарадох. Думаю ўвосень да пратэстаў палітычных далучацца пратэсты сацыяльныя: рабочых і дробных прадпрымальнікаў. Мяркую, што калі ў Лукашэнкі не хопіць разважлівасьці і ён будзе настойваць на правядзеньні выбараў нават не прызнаных эўрапейскай супольнасьцю (а я думаю, што так яно і будзе), то мы знойдзем адэкватную форму палітычнай кампаніі, якая пакажа, што сапраўдная воля беларускага народу не ў тым, каб падтрымліваць фарс.

## *НАМ ПІШУЦЬ...*

Паважаны Спадар Рэдактар!

У красавіцкім нумары "Дайджэсту" з вялікай прыемнасьцю прачытаў "Мелодыі натхненьня і любові" і ўбачыў фотаздымак, амаль як 50 год назад, такога маладога 75-ці гадовага Міхася Клейнера, якога я добра ведаў з 1947 году. Пасьля пад час вучобы ў палітэхнічным інстытуце ў Менску мы з ім падтрымлівалі прыязныя стасункі.

Апошняя наша сустрэча, вельмі цёплая, адбылася на Ўкраіне ў Харкаве ў 1952 г. недзе напрыканцы лета.

Ня так часта нам жыцьцё дае магчымасьць сустракацца з выбітнымі і таленавітымі людзьмі, яшчэ больш рэдка з людзьмі да якіх з першай сустрэчы ставішся вельмі прыязна.

Вось такім чалавекам зьяўляецца Міхась Клейнер — чалавек рамантычнай натуры, музычна таленавіты і ў той час яго захапленьне беларушчынай для мяне вялікая радасьць.

Вялікая Табе падзяка, дарагі Міхась, за любоў да нашай роднай Беларусі, нашых мястэчак з іх непаўторным каларытам, нажаль ужо страчаным трагічна.

Ад усяго сэрца жадаю Табе, дарагі Міхась, і Тваім сямейнікам, моцнага здароўя, дабра, творчых посьпехаў на шмат гадоў!

З вялікай павагай, *Антон Сабалеўскі.*
Масква, Расея.

Спадар Рэдактар!

Нядаўна я атрымаў з Менску выданьне "Белсаюздруку" «Каталог папулярных выданьняў Беларусі — газэты, часопісы, кнігі.

Мяне зьдзівіла тое, што 3/4 прапанаваных выданьняў на расейскай мове, тыпу "Советская Белоруссия", "Во славу Родины" і падобнае... Як кажуць палякі: Z czym do ludzi? Калі мяне зацікавяць расейскамоўныя выданьні, дык я пастараюся атрымаць іх з Масквы, а не з Менску, дзе пануе калгасна-сталінская атмасфэра са сваёю моваю, культураю і бытам... Больш выпадала-б высылаць гэты Каталог у Расею, можа там ён некага зацікавіць...

З пашанай, С. М.

**Ад рэдакцыі:** І мы атрымалі гэты Каталог, і нас таксама ён не зацікавіў...

Шаноўны Спадар Прускі!

У "Беларускім Дайджэсьце" за чэрвень гэтага году зімешчаны розныя цікавыя артыкулы. Мяне ўсхвалявала справа асуджэньня Сп. М. Чыгіра зусім несправядліва... Артыкул С. Шарэцкага асьвятліў для мяне, што творыцца ў Беларусі. Ведама, што ўсё дрэннае ішло і ідзе з імперыі зла, з Масквы. Беларусы церпяць і маўчаць, але ўжо многа людзей робіцца адважнымі і ня хочуць жыць у чужых акупацыйных парадках...

Я малю Сьв. Ефрасіньню княжну і Сьв. Кірылу красамоўцу Тураўскага, каб Яны заступіліся перад Усемагутным Богам за зьбяднелую Беларусь і прасілі Бога, каб Ён паслаў Беларусі волю, незалежнасьць і любоў, каб пазбавіліся беларусы ад усіх захопнікаў і акупантаў... Дай Божа! Дзякую!

К. В.

# Унівэрсытэт за мяжою - абсурд, які можа стаць рэальнасьцю

**Юрась Бушлякоў**

Другі этап збору подпісаў, які завяршыўся 15-га чэрвеня, засьведчыў падтрымку ідэі нацыянальнага ўнівэрсытэту больш як 18 тысячамі жыхароў краіны. Яшчэ 7 тысяч подпісаў ТБМ передавала ў дзяржаўныя структуры два гады назад, у 1998-ым. Калі скласьці ранейшыя подпісы зь цяперашнімі, выходзіць 25 тысяч 328 – пры гэтым ясна, што далёка ня кожны чалавек, які ў прынцыпе падтрымлівае ідэю нацыянальнай беларускай вышэйшай адукацыі, быў сустрэты ініцыятарамі збору подпісаў.

На гэтым тыдні абмеркаваньне пытаньняў адкрыцьця ўнівэрсытэту прайшло нарэшце ў прэзыдэнцкай адміністрацыі – намесьнік яе кіраўніка Іван Пашкевіч сустрэўся із старшынём ТБМ Алегам Трусавым і сустаршынём Менскага гарадзкога бацькоўскага камітэту беларускамоўных вучняў Ігарам Хлябам. Ініцыятары ўнівэрсытэту засталіся ў цэлым задаволеныя размовай – Пашкевіч тактоўна выслухаў іхныя пажаданьні, згадзіўшыся на працяг абмеркаваньня гэтага па сутнасьці палітычнага пытаньня.

Такім чынам, ініцыятары стварэньня Беларускага нацыянальнага ўнівэрсытэту, нягледзячы на ранейшыя адмовы й нават ігнараваньне праблемы з боку ўладаў, усё яшчэ спадзяюцца на ўдзел беларускай дзяржавы. "Калі ў незалежнай дзяржаве няма ніводнай цалкам беларускай паводле мовы й арыентацыі вышэйшай навучальнай установы, то стварыць яе пры наяўнасьці 43 расейскамоўных дзяржаўных ВНУ – не праблема", – так мяркуе кіраўнік справаў Таварыства беларускай мовы Сяргей Кручкоў. І называе як прыклад Акадэмію пры прэзыдэнту Рэспублікі Беларусі – яна, на ягоную думку, якраз і магла б быць пераўтвораная ў Беларускі нацыянальны ўнівэрсытэт. Я пацікавіўся ў кіраўніка справаў ТБМ, ці гатовая ініцыятыўная група стварыць унівэрсытэт у выпадку чарговай адмовы беларускіх уладаў.

Сяргей Кручкоў: -- Ён будзе створаны незалежна ад рашэньня ўладаў. Калі ўлады ўсё ж такі не пагодзяцца на тое, што мы беларусы, якіх 8 мільёнаў 100 тысяч жыве на Беларусі, маюць права мець сваю навучальную ўстанову на беларускай мове, то мы будзем ствараць недзяржаўную вышэйшую навучальную ўстанову, каб увесь сьвет бачыў, што беларусы ня маюць права на сваёй зямлі мець дзяржаўны нацыянальны ўнівэрсытэт; а калі не атрымаецца зь недзяржаўнай на тэрыторыі Рэспублікі Беларусі, то ёсьць трэйці варыянт, яшчэ горшы для нашых улад, – гэта стварэньне Беларускага нацыянальнага ўнівэрсытэту па-за межамі Беларусі – у Літве або ў Варшаве, у Польшчы. Але я думаю, калі на такія крокі вымушаная будзе пайсьці грамадзкасьць Беларусі, я думаю, для ўсяго сьвету і ў тым ліку для нашых сяброў у Расіі будзе зразумела, што тут нешта ненармальнае адбываецца, калі карэнная нацыя пазбаўляецца права атрымаць вышэйшую адукацыю на роднай мове.

Нягледзячы на палітычныя рэаліі, Сяргей Кручкоў і ягоныя паплечнікі спадзяюцца на стварэньне менавіта дзяржаўнага нацыянальнага ўнівэрсытэту ўжо ў наступным годзе. Для гэтага, як лічыць спадар Кручкоў, сёлета пры Міністэрстве культуры павінна быць створаная група, якая зоймецца дэталёвай распрацоўкай канцэпцыі нацыянальнага ўнівэрсытэту. А вось якім ужо цяпер бачаць будучы ўнівэрсытэт ініцыятары яго стварэньня.

С.К.: -- Гэта, па-першае, павінная быць самая элітарная ў Беларусі навучальная ўстанова, каб абавязкова вывучалася лаціна, адна із славянскіх моваў, абавязкова вывучаліся асноўныя эўрапейскія мовы. Чалавек павінен выйсьці з унівэрсытэту, ведаючы прынамсі тры мовы. Павінна рыхтавацца эліта, і, напрыклад, чалавек, які будзе выпускацца з гэтага ўнівэрсытэту, павінен мець дыплём дырэктара школы ці намесьніка дырэктара школы, каб ягонай кваліфікацыі й агульных ведаў хапала на тое, каб трапіць адразу ў эліту беларускага грамадзтва.

Паводле суразмоўцы, найбліжэйшым часам у прэзыдэнцкай адміністрацыі павінна адбыцца чарговая сустрэча ў пытаньнях стварэньня Нацыянальнага ўнівэрсытэту. "Праблема насьпела й закрыць яе, ня вырашыўшы, нельга", – перакананы кіраўнік справаў ТБМ.

# Другі Нюрнберг

**Галіна Абакунчык** (Радыё Рацыя)

Міжнародны кангрэс, арганізаваны па ініцыятыве праваабарончых віленскіх арганізацыяў "Былых палітычных вязьняў " і "Аб'яднаньне змагароў за волю", супаў з чарговаю гадавінаю акупацыі савецкімі войскамі ў 40 годзе Літвы, Латвіі ды Эстоніі. І гэта -- не выпадкова: гады панаваньня камуністычнага рэжыму тут лічацца найтрагічнымі ў гісторыі гэтых прыбалтыйскіх краінаў. І гэта стала першай у гісторыі спробай даць маральную і юрыдычную ацэнку злачынстваў камуністычнай ідэялёгіі.

Больш за 60 выступоўцаў з Эўропы, Афрыкі, Амэрыкі, Азіі, Кубы ў абвінаваўчых дакладах пра злачынствы камуністычнага рэжыму ў сваіх краінах называлі жахлівыя лічбы загінулых, рэпрэсаваных па ідэалягічнай, рэлігійнай, нацыянальнай прыналежнасьці.

На агульную думку ўдзельнікаў працэсу, злачынствы камуністычнага рэжыму па маштабах шматкроць пераўзыходзяць колькасьць ахвяраў фашыстоўскай ідэялёгіі. Да прыкладу, калі ў Другую ўсясьветную вайну па прыблізных падліках загінулі каля 65 мільёнаў чалавек, дык за гады панаваньня камунізму фізычна вынішчанымі сталіся 95 мільёнаў. Зь іх на тэрыторыі былога СССР -- больш за 20 мільёнаў. У сваю чаргу, найбольшая колькасьць ахвяраў, сярод былых саюзных рэспублік прыходзіцца на Беларусь.

Пра гэта ў сваіх выступах гаварылі прысутныя на кангрэсе Зянон Пазьняк, Сямён Шарэцкі, Мая Кляшторная і Радзім Гарэцкі, чые бацькі-беларускія пісьменьнікі, заплацілі жыцьцём за сьвядомую беларускасьць. Дапрэчы, на Беларусі было зьнішчана 80 адсоткаў беларускай інтэлігенцыі і гэтулькі ж ад агульнай колькасьці заможных сялянаў былі расстраляныя ў Курапатах, высланыя ў сібірскія абсягі Расеі. Падлічыць маральны генацыд -- катаваньне ў турмах і высылкі, выгнаньне з ўнівэрсытэтаў і працы -- падлічыць проста не магчыма.

І тое, што сёньня нэакамуністычныя сілы спрабуюць аспрэчваць сапраўднасьць сталінскіх рэпрэсыяў у Курапатах, гаворыць на тое, што сапраўдныя маштабы трагедыі беларускага народу спрабуюць схаваць. І больш таго, сёньня на Беларусі, на думку ўдзельнікаў кангрэсу, існуе рэальная пагроза рэанімацыі змрочных часоў 30-х гадоў --хлусьні, страху.Таму разам з выніковай рэзалюцыяй кангрэсу была прынятая і спэцыяльная заява па Беларусі.

Міжнародны кангрэс у Вільні ў завяршэньне вынес маральнае абвінавачваньне камуністычнаму рэжыму. Аднак працягвае працу грамадзкі трыбунал, які падрахоўвае ўсё новыя факты злачынстваў. Вынікам гэтай работы стане абвінавачае заключэньне, якое будзе абвешчанае на восеньскай сэсіі ў верасьні гэтага году.

У адрозьненьне ад Нюрнбэргу, ён ня будзе мець юрыдычнай сілы, але, на думку ўдзельнікаў кангрэсу, сталінізм не загіне на нашай зямлі, пакуль не атрымае маральную рэабілітацыю хоць адзіная ахвяра камунізму.

# Першая імша на роднай зямлі

Леанарда АЛЯШЭВІЧ

Сапраўды гістарычная падзея адбылася ў Смаргоні 18 чэрвеня гэтага года: ксёндз Уладзімір Кабак адправіў першую Святую Імшу на ронай зямлі.

Быў халодны чэрвеньскі ранак, парывы ветру разганялі цяжкія хмары, калі разам з іншымі святарамі з'явіўся ля палявога алтара ксёндз Уладзімір.

Светлавалосы, блакітнавокі, у залацістых літургічных шатах, ён, як сонейка, стаў выпраменьваць нябачнае святло і цяпло шматлюднаму натоўпу вернікаў, што зграмадзіліся пры касцёле Святога Міхала.

З першых да апошніх слоў набажэнства кс.Уладзімір карыстаўся беларускай мовай. І гучала яна так узнёсла, чыста, натуральна! Ды іначай не магло быць: з нараджэння, са слова «мама», дзіцятка было падрыхтавана пакаленнямі продкаў да карыстання гэтай мовай.

Зразумела і пранікнёна гучалі з вуснаў маладога святара як кананічныя словы, так і словы-падзяка Богу, ксяндзам-настаўнікам, бацькам і ўсім, хто дапамог стаць на нялёгкі, але пачэсны шлях, каб годна прайсці яго аж да пасвячэння.

Слёзы замілавання з'явіліся на вачах прысутных. А мне прыгадаліся словы нашага слыннага земляка - Францішка Багушэвіча: «Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людзям…»

Якім бы шчаслівым быў пісьменнік, пачуўшы кс.Уладзіміра, які ведае і польскую, і лацінскую, і іншыя замежныя мовы, але найперш добра ведае сваю. Быў бы ўсцешаны Ф.Багушэвіч і тым, што беларуская мова гучыць ужо ў нашых святынях.

Па-добраму зайздрошчу калегам - настаўнікам, якія вучылі Валодзю. Нізка схіляю галаву перад ксяндзом Уладзімірам, што ні іншыя, вядомыя ім, мовы, ні амаль дзесяцігадовая адарванасць ад беларускага моўнага асяроддзя не зацьмілі ў ім родных каранёў, не пазбавілі еднасці з тым людам, сярод якога ён вырас.

Разумны, абаяльны, кс. Уладзімір сімвалізуе ўзор інтэлекту і маралі: як любіць Бога і паважаць, цаніць чалавека.

Хочацца пажадаць маладому святару стаць добрым пастырам, поспехаў на яго жыццёвым шляху, здзяйснення ўсіх мар і надзей.

## АБ'ЯВА

Шаноўнае спадарства!

**Беларускі Кнігазбор** зьвяртаецца да Вас па фінансавую дапамогу ў выданьні кнігі **«Ларыса Геніюш. ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ»**, прысьвечанай 90-годзьдзю з дня нараджэньня славутай паэткі (нарадзілася 9.08.1910.).

# ДА АГУЛЬНАГА ВЕДАМА

Мы атрымоўваем шмат розных артыкулаў (вельмі часта без азначэньня крыніцы) з якіх выбіраем да друку, на нашу думку, найбольш цікавыя разважаньні пра беларускую тэматыку. Замежжа беларускімі нацыянальнымі справамі моцна цікавіцца... Нярас памыляемся... таму просім у нашых чытачоў зразуменьня і выбачэньня...

Наша газэта выдаецца толькі і выключна за ахвяры нашых дабрачынных чытачоў. Жабруем, просім і назаляем, аднак ня ўсе нас разумеюць і спагадаюць. Агульна вядома, што быць ахвярадаўцам — гэта шляхетна, пачэсна і ганарова!.. А сотні людзей з Беларусі і іншых краёў СНД просяць высылаць ім газэту... а нам гэта не пад сілу, а шкода... Дзякуем і чакаем на ахвяры!...

*Мікола Прускі*, выдавец.

# Нацыя: савецкае грамадзтва

**Сяргей Ахрамовіч** (Радыё Рацыя)

"Передвыбарчая барацьба ў дзяржаве зь 10-цімільённым насельніцтвам, уклінёнай паміж Польшчай і Расеяй, даходзіць да свайго піку", – чытаем у пятнічным нумары "The NewYork Times". "З усіх сілаў, – працягвае газэта, – Лукашэнка змагаецца сёньня за тое, каб легітымізаваць сваю ўладу пасьля разгону ў 1996 годзе дэмакратычна абранага парлямэнту, устанаўленьня на яго мейсцы свайго ўласнага парлямэнцкага пазадзьдзя й пашырэньня тэрміну прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў да 2001 году з дапамогаю імклівага рэфэрэндуму. Апазыцыя, у складзе якой знаходзяцца многія зь лідэраў руху за выхад Беларусі з Савецкага Саюзу ў 1991 годзе й стварэньне незалежнае дзяржавы, сёньня стаіць на тым, каб зьмясьціць Лукашэнку з пасады прэзыдэнта й прымусіць яго да правядзеньня цывілізаваных і справядлівых выбараў, якія ён, як яны лічаць, прайграе".

"The NewYork Times" адзначае, што Міхаіл Чыгір – першы прэм'ер-міністар ва ўрадзе Лукашэнкі, які ў 1996-м не пагадзіўся з разгонам Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня й быў вымушаны пайсьці ў адстаўку, заявіў цяпер пра гатовасьць да ўдзелу ў блізкіх парлямэнцкіх і прэзыдэнцкіх выбарах у выпадку, калі Лукашэнка зробіць іх шчырымі".

"Я маю намер працягваць барацьбу й не зьбіраюся спыняцца на паўдарозе," - заявіў Чыгір у сваім інтэрвію пасьля васьмі месяцаў сьледчага ізалятару й палітычнага судовага працэсу, у выніку якога ён пазбаўлены магчымасьці пэўны час займаць кіраўнічыя пасады. Былы прэм'ер спадзяецца, што з дапамогаю Расеі, Эўропы й Злучаных Штатаў ягоная справа ўсё-ткі будзе перагледжаная, – піша ў артыкуле "Беларуская дэлегацыя дакарае беларускага кіраўніка" Патрык Тайлер.

"The NewYork Times" прыводзіць словы галоўнага рэдактара газэты "Наша свабода" Паўла Жука. "Уся праблема ў самім Лукашэнку", – сьцьвярджае Жук і працягвае: – "Усё так спакойна ня скончыцца. Цiск з кожным днём памацняецца й памацняецца. Нешта павінна адбыцца. Павінен быць выбух".

Незадаволенасьць эўрапарлямэнтароў, якія спрабавалі падчас візыту схіліць Лукашэнку да перамоваў з апазыцыяй адносна гарантыяў правядзеньня бесстаронных свабодных выбараў, супадае з рэакцыяй лідэраў Злучаных Штатаў і Расіі, – яны таксама ўзмацнілі ціск на беларускага кіраўніка й патрабуюць ад яго ўзгадненьня умоваў на дыялёг з апазыцыйнымі сіламі й усталяваньня ў краіне клімату свабоды, – піша "The NewYork Times".

Газэта робіць напамін, што Палата прадстаўнікоў Кангрэсу Злучаных Штатаў Амэрыкі ў мінулым месяцы асудзіла парушэньні правоў чалавека й прынцыпаў дэмакратыі ў Беларусі й прыняла адпаведную рэзалюцыю да беларускага кіраўніцтва. Некалькі чальцоў амэрыканскага парлямэнту заклікалі дзяржсакратара ЗША Мэдлен Олбрайт сустрэцца з прадстаўнікамі беларускай апазыцыі на канфэрэнцыі па пытаньнях дэмакратыі, якая мае адбыцца ў Польшчы на наступным тыдні. У Маскве вядомыя й важкія палітычныя постаці, сярод якіх былы прэм'ер расійскага ўраду Яўгеній Прымакоў і лідэр руху "Яблоко" Грыгорый Яўлінскі падпісаліся на гэтым тыдні пад заклікам да Аляксандра Лукашэнкі лібэралізаваць выбарчы працэс у краіне й дазволіць апазыцыйным сілам удзельнічаць ў абмеркаваньні супярэчлівых пытаньняў у падкантрольных уладам сродках масавае інфармацыі. Пакуль Лукашэнка адмовіўся ад ўсяго, – сьведчыць аглядальнік "The NewYork Times". Нават ад запрашэньняў на інтэрвію.

Беларускі кіраўнік пабываў у Маскве на сустрэчы з прэзыдэнтам Расеі Уладзімірам Пуціным ды іншымі лідэрамі СНД – першай з моманту абраньня Пуціна прэзыдэнтам Расійскай Фэдэрацыі. У расейскай сталіцы, дзе ў сьнежні 1999 году была падпісаная дамова паміж Расеяй і Беларусьсю пра увядзеньне сумеснай валюты й ваеннай каардынацыі ў часе крызысных сытуацыяў, – Лукашэнка зноўку аддаваў перавагу свайму ўлюбёнаму каньку – пагрозам ў бок НАТА й Захаду, якія, па ягоным выказваньні, "павінны сьцерагчыся моцнага су- праціўніка на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу". "Дзеля гэтага – цытуе "The NewYork Times" Аляксандра Лукашэнку, – Беларусь зробіць усё магчымае, каб паскорыць інтэграцыю з Расеяй. Беларусь ніколі не адвернецца ад нашай Расеі, у сьвеце няма іншай такой нацыі, як савецкае грамадзтва", – заявіў першы беларускі прэзыдэнт.

---

# Непатрэбны СНГ

Ёсьць палітыкі, якім заўжды няма калі. А часу ім бракуе таму, што карціць хутчэй захапіць чым болей улады і ўтрымліваць яе дольш. Дзеля гэтага яны гатовыя цярпець самыя агідныя рэчы, нават сустрэчы з сваімі калегамі.

Чытачы «НН», у большасьці ня схільныя атрымліваць асалоду ад кіраваньня масамі, могуць дазволіць сабе нясьпешны разгляд падзеяў ў рэтраспэктыве.

Здалёк відаць, як на прасторах Эўразіі амаль тысячу гадоў таму пачалася экспансія трох дзяржаваў: Вялікага Княства Літоўскага, Вялікага Княства Маскоўскага і Арды. Нарэшце звышдзяржавы Сярэднявечча займелі агульныя межы і пачалі барацьбу на сьмерць. Перамагла Масква.

Але аднойчы Маскоўская імпэрыя дасягнула ліміту росту. Пачаліся страты, і ўсё пакацілася ў адваротным парадку: у вайне зь японцамі страціла Сахалін, у першай сусьветнай — Фінляндыю і Польшчу. Ленін і Сталін ухапілі паўЭўропы, але пераварыць ня здолелі і нарэшце лопнулі.

Адарваліся вонкавыя імпэрыі. Адыходзяць Украіна і Казахстан. Рвуцца і пырскаюць шалёнай крывёй старыя швы на Паўночным Каўказе. А ідэя незалежнасьці нашчадкаў ВКЛ і Арды — Беларусі і Татарстану — выклікае ў расейскіх палітыкаў ціхую гістэрыку. Як жа далей кіраваць, каго «мачыць у сарціры», няўжо наўгародзкіх сэпаратыстаў?

Каб захоўваць уладу над сёмай часткай сушы, тамтэйшым уладарам патрэбныя рашучасьць і перамогі. Таму і трымаецца многа гадоў нежывы СНГ, паўтараюцца штогадовыя інтэграцыйныя аргазмы зь біцьцём келіхаў і біцьцём у званы. Таму й не сьціхае лямант найманых брахуноў наконт развалу вялікага Саюзу.

Ах, якім смачным кавалкам для Расеі ёсьць наша Бацькаўшчына! Ах, што хочаш аддадуць беларускія эліты і супэрэліты, каб дажыць свой век на падмаскоўнай дачы ў Барвісе!

У 1990 г. наша Радзіма займала ў складзе СССР 0,9% тэрыторыі. 3,6% насельніцтва Саюзу былі нашы. Мы мелі 3,4% кошту асноўных вытворчых фондаў. Меўшы гэна, Беларусь стварыла ў тым годзе 4% саюзнага ВНП, 4,5% прадукцыі прамысловасьці і 5,6% — сельскай гаспадаркі. Тое сьведчыць, што галоўнае багацьце наша — людзі.

Таму па вытворчасьці мінэральных угнаеньняў, хімічных валокнаў і нітак, трактароў, тканіны, абутку, малака і мяса мы на душу насельніцтва мелі паказчыкі вышэйшыя, чым у Эўропе.

Мінула дзесяць гадоў. За гэткі кароткі час народы не дурнеюць. Таму нават пры выключна няўдалым кіраўніцтве краіны ўдалося захаваць ВНП на ўзроўні 80% да ўзроўню 1990 г., прадукцыю прамысловасьці — 90%, сельскай гаспадаркі — 70. Інвэстыцыі ў асноўны капітал скараціліся пры тым толькі напалову, а рэальныя грашовыя прыбыткі насельніцтва на 1/10 частку. Гэта, тым ня менш, значна лепшыя паказчыкі, чым у асобных краінах СНГ і ўва ўсёй садружнасьці разам.

Са спазьненьнем, але ж набыла Айчына і свае грошы. «Зайчык» пачаў хадзіць з 1992 году, а праз два гады, пастановай Вярхоўнага Савету ад 19 кастрычніка 1994 г. №3326-XII «Аб плацёжным сродку Рэспублікі Беларусь» атрымаў афіцыйны статус нацыянальнай валюты. Здаецца, бяры, шануй і ўмацоўвай, як паляк — свой злоты, а латыш — лат. Не, бач ты іх, яны сёньня «гатовыя прыняць расейскі рубель». А можа лепей даляр ці літ? Хто вырашае, у каго пытаюцца, халера яго ведае!

Як набыў наш родны край незалежнасьць, дык пабольшала даходная база бюджэту, бо вызвалілася частка грошай, што ішла раней у агульнадзяржаўныя даходы СССР. Зараз зноў трэба нашыя грошы ў Саюз нейкі пёрці.

Кажуць, СНГ дапаможа ў стварэньні ФПГ (транснацыянальных расейскіх карпарацыяў). Эге ж, нашым гарбом за наш кошт дапаможа. Дарэчы, на Захадзе таксама карпарацыі ёсьць, але пры гэтым ніхто да Амэрыкі 53-м штатам ня просіцца.

Жыцьцё сваё бярэ. Мы мусім плаціць за газ. Было б лепей, каб плацілі грашыма, а не таварамі. Усе тое разумеюць, і пацыху адбываецца паварот экспарту на Захад. Таму і наш начальнік адправіўся проста да самых вялізных расейскіх «ушывых блох», у карпарацыю «Ітэра».

Нешта падобнае адбываеца і з астатнімі сёстрамі-рэспублікамі, што не пасьпелі пад шумок перабудовы далёка ўцячы ад матухны-Расеі. Таму СНГ было, ёсьць і будзе есьці. Таму пад размовы пра дружбу-фройндшафт, агульную барацьбу з тэрарызмам і супрацьракетную абарону Украіна, Грузія і Азэрбайджан спакайнюсенька ўдзельнічаюць у манэўрах страшнага NATO, што падпоўз пад бок сінявокай партызанкі. Таму перад агульнымі пасядзелкамі В.Пуцін угаворвае Н.Назарбаева наконт нафтавай трубы. Ды так добра, што той нават прапанаваў фонд падтрымкі расейскай мовы стварыць.

Таму пастанавілі штаб-кватэру СНГ пакінуць у Менску, каб правадыры садружных народаў маглі сустрэцца ў нашай аазе дэмакратыі ўвосені, пасьля таго, як у жніўні патусуюцца на цёплым крымскім беражку.

Карацей кажучы, Расея мае клопат пра 80% свайго замежнага таваразвароту і 20 000 000 расейцаў, раскіданых на прасторах былой імпэрыі, а таксама пра 10 000 000 тонаў збожжа, якога ёй цяпер не стае. Расея хоча быць моцнай, бо В.Пуцін любіць Расею і хоча кіраваць ёй доўга і сувора. Расея больш не жадае губляць. Ёй патрэбны СНГ.

А што нам, беларусам, з таго?

Міхал Залескі (Наша Ніва)

---

# Апазыцыя яднаецца

**Прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада", Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Партыі БНФ на паседжаньні Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў 15 чэрвеня прынялі рашэньне раіць сваім рэгіянальным структурам цягам чэрвеня - ліпеня стварыць рэгіянальныя структуры Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў. Рэгіянальныя лідэры трох партыяў павінны прапанаваць прадстаўнікам іншых дэмакратычных партый і прафсаюзаў увайсьці ў склад мяйсцовых структураў Каардынацыйнай Рады**

---

# ЗША – за дружбу…

Злучаныя Штаты ня будуць уводзіць супроць Беларусі рэжым гандлёвых санкцыяў. Такое рашэньне прыняў прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан пасьля перамоваў з прэзыдэнтам Расеі Уладзімірам Пуціным, якія адбыліся некалькі тыдняў таму. Рашэньне пра тое, што дзеяньне нармальнга рэжыму гандлёвых стасунках ў дачыненьні да Беларусі працягнутае яшчэ на год даведзенае да дзьвюх палатаў амэрыканскага парляманту.

---

## Што праўда, то праўда.

…"Беларускі ўрад – акупацыйны. Там усе ключавыя пасады займаюць расейцы, прычым ваенныя. Палкоўнікі, генэралы і г.д. Гэта расейцы, прысланыя з Масквы. А мы ўжо ведаем, чым гэта сканчаецца. Да Мазурава ўсе першыя сакратары ЦК былі людзі, прысланыя з Масквы. Пасьля сябе яны пакінулі нам Курапаты".

**С. Шарэцкі**





Сьв. Памяці

## Гэнрык Сянькевіч

9 траўня 1923 — 22 чэрвеня 2000

Сьв. Памяці Гэнрык Сянькевіч паходзіў з Ляхавіч, што каля Баранавіч. Памёр у Чыкага, ЗША., і пахаваны на Resurrection Cemetery у Чыкага.

Пакінуў у смутку жонку, двух сыноў, дачку і 7 унукаў.

Нябожчык Гэнрык быў сталым чытачом нашае газэты і яе спонсарам.

Няхай будзе Яму пухам амэрыканская зямля.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!






Група беларускіх школьнікаў-скаўтаў з лягеру Міттэнвальд-Лютэнзээ, Нямеччына, 1949 г.

## Лукашэнка – найміт…

Чарговае паседжаньне Найвышэйшай Рады Зьвязу Беларусі і Расеі, удзел у якім бралі Ўладзімер Пуцін і Аляксандар Лукашэнка, скончылася без канкрэтных вынікаў. Прынятая была толькі прапанова ўзмоцніць супрацу, якая ў пэрспэктыве мае прывесьці да аб"яднаньня дзьвюх дзяржаваў. Пасьля спатканьня Пуцін сказаў, што пра супольную зьнешнюю палітыку Беларусі і Расеі можна будзе казаць толькі тады, калі паўстане адна дзяржава На гэта Лукашэнка адказаў, што ўжо цяпер няма розьніцы ў замежнай палітыцы паміж ягонай краінай і Расеяй. Апошняя прапанова Лукашэнкі наконт увядзеньня ў Беларусі расейскага рубля падчас сустрэчы была абыйдзеная маўчаньнем. Паводле маскоўскіх камэнтатараў, вынікі спатканьня паказаваюць, што доўга яшчэ саюз Беларусі і Расеі будзе існаваць толькі на паперы.

Больш за 100 міністраў замежных справаў з усяго сьвета бярэ ўдзел у двухдзённай канфэрэнцыі "Супольнасьць дэмакратыі", якая пачалася сёньня ў Варшаве паралельна з Сусьветным Форумам. Дэлегацыі абмяркоўваюць пэрспэктывы дэмакратыі і яе пагрозы як адну з найважнейшых праблемаў міжнароднай палітыкі. Сярод гасьцей - дзяржсакратар ЗША Мадлен Олбрайт і гэнэральны сакратар ААН Кофі Анан. На канфэрэнцыю не запрошаныя міністры замежных справаў Беларусі, Кітаю, Іраку й Лівіі.




Падаецца да ведама наш e-mail address:
**bdigest@iserv.net**

## 24th BIENNIAL CONVENTION OF BELARUSIANS OF NORTH AMERICA

**"Progress of Human Rights, Democracy and Independence in Belaruś"**

**September (Верасень) 1 – 4, 2000**
**Cleveland, Ohio U.S.A.**

Далейшыя даныя будуць паданыя ў наступным нумары нашае газэты. Цяпер узгадняецца дакладная праграма і іншыя дэталі Зьезду.

Чакайце на далейшыя паведамленьні...

## "Літванія" у Заходняй Беларусі

**Напрыканцы траўня ў Навагрудку адбылося падпісанне "Акту абвяшчэння існавання ліцвінскай нацыі".**

Некалькі дзесяткаў жыхароў Беларусі з Ваўкавыска, Ліды, Мінска, Гомеля, Пінска ды іншых гарадоў удзельнічалі ў гэтай акцыі на Замкавай гары. Іх аб'ядноўвала тое, што яны прыхільнікі адраджэння Вялікага княства Літоўскага і гістарычнай назвы беларусаў — ліцвіны.

"Мы, рэпрэзентанты ліцвінскага народа, — гаворыцца ў "Акце...", — заяўляем, што ўсведамляем сябе па нацыянальнасці ліцвінамі і абвяшчаем пра існаванне ліцвінскай нацыі. Згодна з падставовым правам чалавека на нацыянальную самаідэнтыфікацыю, просім дзяржаўныя органы і грамадскія арганізацыі ўсіх краін разглядаць да-дзены Акт як доказ існавання нацыі ліцвінаў".

Трэба адзначыць, што так званы ліцвінскі рух існаваў на Беларусі яшчэ ў даваенныя часы, а пасля на эміграцыі. Праўда, тады "ліцвіны" не падзялялі беларускі народ на часткі. Сённяшнія ж іх паслядоўнікі збіраюцца пабудаваць "Літванію" у Заходняй Беларусі...

## Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...

| | |
|---|---|
| 222. Пятрусь Плескач | $50.oo |
| 223. Сьвятлана Вольпэ | $100.oo |

На гэтым канчаем збор ахвяраваньняў на Беларускі Музэй у Гайнаўцы. Заплявананая мэта і сума дасягнутыя. Вялікае Дзякуй!

А можа яшчэ хто мае жаданеньне далучыцца да гэтае акцыі? Такая магчымасьць існуе...



## Пытаньне ня вырашанае, СНД разваліцца?

Кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка, які удзельнічае ў маскоўскім саміце кіраўнікоў краінаў СНД, 21 чэрвеня правёў перамовы з прэзыдэнтам Расеі Уладзімірам Пуціным. Кіраўнікі дзяржаваў абмеркавалі праблемы беларуска-расейскага зьвязу. Разам з тым, ніякага пагадненьня пра стварэньне зоны свабоднага гандлю ў межах СНД у часе саміта падпісана не было. Днём раней Аляксандар Лукашэнка назваў гэта галоўным пытаньнем, без вырашэньня якога СНД можа разваліцца.






Паважаныя чытачы "Беларускага Дайджэсту"! Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты...